№ 69 (3810)

3 верасня 2013 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб КОЛАС

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

НЕЗАШОРАНЫМ ВОКАМ



Лявон БАРШЧЭЎСКІ

# Пра беларускую «канстытуцыйную законнасць»

Днямі незаўважна для дзяржаўных СМІ і чыноўнікаў мінула чарговая гадавіна фактычнага абвяшчэння незалежнасці нашай краіны.

Нагадаю маладзейшым чытачам "Народнай Волі", што 25 жніўня 1991 года пазачарговая пятая сесія Вярхоўнага Савета Беларусі надала статус канстытуцыйнага закона Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай ССР і прыняла закон "Аб забеспячэнні палітычнай і эканамічнай самастойнасці БССР". Аналагічныя рашэнні, прынятыя на дзень раней Вярхоўным Саветам Украіны і на дзень пазней Вярхоўным Саветам Малдовы, сталіся нагодай для абвяшчэння ў гэтых, не далёкіх ад нас, краінах галоўных на сёння дзяржаўных свят, якія там штогод адзначаюцца на самым высокім узроўні, з запрашэннем усіх жывых удзельнікаў тых падзей...

Калі пытаешся ў знаёмых гісторыкаў (і не толькі гісторыкаў), чаму ж дзень 25 жніўня замоўчваецца сённяшнімі дзяржаўнымі ўладцамі, чаму яго значэнне прыніжаецца ў школьных падручніках гісторыі, звычайна яны адказваюць так: маўляў, Аляксандр Лукашэнка, дэпутат Вярхоўнага Савета 12-га склікання, за абодва гістарычныя акты не галасаваў — таму, відаць, яму больш хочацца, каб гісторыя незалежнай Беларусі пачыналася толькі з 1994 года, калі ён быў абраны прэзідэнтам краіны.

Зазіраю ў афіцыйную стэнаграму надзвычайнай пятай сесіі Вярхоўнага Савета і бачу цікавую рэч: па ўсіх пунктах, датычных працэдуры абвяшчэння незалежнасці Беларусі, насупраць прозвішча дэпутата Лукашэнкі стаяць літары "Ад" — гэта значыць адсутнічаў. Але ж як непасрэдны сведка тых падзей я добра памятаю, што Аляксандр Лукашэнка на той сесіі прысутнічаў і нават на ёй выступаў з нагоды правалу маскоўскага путчу 21 жніўня 1991 года! Цытую ўрыўкі з яго выступлення на мове арыгінала, паводле той жа стэнаграмы: *"...Я хотел бы сказать, что это не все так просто было бы, если бы это продлилось какое-то время. Сейчас поступают данные, что на многих заводах... тысячи наручников были заказаны накануне государственного переворота. Вы знаете, что в моем родном городе районный отдел внутренних дел, все сотрудники... уже потирали руки, писали списки и заявляли, кого же они повесят в первую очередь. И даже когда путч провалился, многие сотрудники заявляли о том, что этого Горбачева надо повесить вниз головой и оставить на долгое время, пока еще будет биться его сердце".* Бачыце, якія палымяныя словы былі прамоўлены тады, пасля паразы маскоўскага ГКЧП, дэпутатам Лукашэнкам у абарону канстытуцыйнай законнасці!

Прайшоў час, і абраны прэзідэнтам краіны Аляксандр Лукашэнка сам мусіў зрабіцца гарантам гэтай канстытуцыйнай законнасці. Як ён распарадзіўся гэтымі правамі гаранта? Пачалося ўсё са з'яўлення "белых плямаў" у дзяржаўных газетах на тых месцах, дзе павінен быў публікавацца даклад дэпутата Вярхоўнага і Мінскага гарадскога саветаў ад апазіцыі **Сяргея Антончыка** аб неабходнасці расследавання фактаў злоўжыванняў і карупцыі ў найвышэйшых эшалонах беларускай улады. Потым сваім абсалютна беспадстаўным указам Аляксандр Лукашэнка адхіліў ад пасады галоўнага рэдактара парламенцкай (!) газеты дэпутата **Іосіфа Сярэдзіча,** потым 19 дэпутатаў былі збіты людзьмі ў вайсковай форме ў тым самым будынку, гаспадаром якога перад гэтым сябе абвясціў прэзідэнт. Потым надышоў час кайданкоў: іх напачатку надзелі на рукі арганізатараў забастоўкі супрацоўнікаў Мінскага метро... Прайшло няшмат часу, і з будынка Цэнтральнай выбарчай камісіі быў гвалтам выдалены зацверджаны парламентам старшыня ЦВК **Віктар Ганчар,** а рэферэндум па змене Канстытуцыі 24 лістапада 1996 г. праводзіўся насуперак папярэднім рашэнням таго ж ЦВК!

Дарэчы, адным з галоўных аргументаў на карысць унясення радыкальных правак у Канстытуцыю 1994 года афіцыйная прапаганда тады называла... абмежаваныя (нібыта) паўнамоцтвы ўрада Беларусі. Пра тое, аднак, як выконваюцца ўрадавыя пастановы цяпер, мне ўжо даводзілася пісаць, у тым ліку ў папярэдняй публікацыі пра няствораны Мінскі гуманітарны ліцэй. Але жыццё літаральна з кожным днём падкідвае яшчэ цікавейшыя факты. Як паведамляюць СМІ, генеральны дырэктар расійскага канцэрна "Уралкалий" **Уладзіслаў Баўмгертнер** днямі прыехаў у Беларусь па запрашэнні самога прэм'ер-міністра нашай краіны. Прыехаў — і трапіў у "беларускія" кайданкі! Выглядае, што тут мела месца адно з двух: або **Міхаіл Мясніковіч** нічога не ведаў пра запланаваную аперацыю спецслужбаў (і што ж гэта тады за "ўрад" і "прэм'ер-міністр"?), або свядома выканаў ролю гэткай "прынады" (і зноў тыя самыя пытанні паўстаюць). Паводле майго разумення права, калі беларуская пракуратура мела якія-небудзь факты ці падазрэнні супраць грамадзяніна іншай краіны, яна павінна была звярнуцца з адпаведным запытам у пракуратуру гэтай краіны і афіцыйна папрасіць дапамагчы ёй у следчых дзеяннях.

28 жніўня з-за кратаў гродзенскай турмы выйшаў надзвычай мужны малады чалавек, выпускнік Вільнюскага педагагічнага ўніверсітэта, маладзёжны лідар **Зміцер Дашкевіч.** Ці не большую частку свайго дарослага жыцця 32-гадовы Зміцер паспеў правесці або за кратамі, або пад следствам у розных "справах". Здаецца, эканоміку Рэспублікі Беларусь ён ніяк не падрываў, ні ў якіх гвалтоўных дзеяннях па звяржэнні канстытуцыйнага ладу заўважаны таксама не быў... Паводле вердыктаў беларускіх суддзяў, гэты самы "канстытуцыйны лад" хацелі падарваць або знішчыць паэт **Уладзімір Някляеў,** кандыдат тэхнічных навук і падпалкоўнік у адстаўцы **Мікалай Статкевіч,** былы дырэктар літаратурнага музея і дэпутат Мінгарсавета літаратуразнаўца **Алесь Бяляцкі**, кадравы дыпламат **Андрэй Саннікаў**, былы рэктар БДУ, прафесар педагогікі **Аляксандр Казулін**, журналістка **Ірына Халіп**... Не хацелі яго знішчыць (следства пацвердзіла), але невядома за што адседзелі не адзін дзясятак дзён у турме КДБ настаўнік гісторыі, дэпутат Вярхоўнага Савета двух скліканняў **Анатоль Лябедзька,** інжынер-будаўнік **Аляксандр Арастовіч**... У чарговай высылцы знаходзіцца колішні выпускнік геаграфічнага факультэта БДУ, таленавіты літаратар і публіцыст **Павел Севярынец,** абвінавачванне супраць якога я ў судзе, што праўда, чуў, але так і не здолеў зразумець.

Некалькі месяцаў — відаць, у вышэйзгаданай турме КДБ — сядзіць ксёндз з Барысаўшчыны **Уладзіслаў Лазар**, якому, паводле звестак з прэсы, прыпісваецца нешта накшталт шпіянажу. Як на мой розум, калі святар з правінцыйнай парафіі можа ведаць нейкія дзяржаўныя таямніцы, дык караць трэба не яго, а тых супрацоўнікаў спецслужбаў, якія дазволілі яму даведацца пра тыя таямніцы. Зрэшты, сёння пра яго лёс грамадскасці вядома не больш, чым пра лёс вышэйзгаданага старшыні ЦВК, дэпутата Віктара Ганчара ці экс-міністра ўнутраных спраў генерала **Юрыя Захаранкі**...

Вельмі хочацца, каб канстытуцыйная законнасць, нарэшце, сапраўды займела свае гарантыі. Жывём жа нібы не ў першабытным статку.

ВІНШУЕМ!

# Шчасця вам!

*У мінулыя выхадныя пабраліся шлюбам былыя палітвязні Наста Палажанка і Зміцер Дашкевіч.*




Нагадаем, што афіцыйна шлюб быў зарэгістраваны яшчэ ў снежні мінулага года ў гродзенскай турме, дзе Дашкевіч адбываў пакаранне, пасля чаго маладым далі толькі пяць хвілін на размову. І вось зараз, пасля вызвалення Зміцера, адбылося сапраўднае вяселле.

Пад вянец маладую вёў бацька Уладзімір Палажанка: мама Насты памерла, калі дзяўчына была падлеткам. Дзімава мама, Вольга Дашкевіч, таксама не дачакалася гэтага шчаслівага дня: яна памерла, калі сын адбываў пакаранне. Гледзячы на гэтую кранальную працэсію, ведаючы, праз якія выпрабаванні давялося прайсці маладым і іхнім сем'ям, многія госці не маглі стрымаць слёз радасці.

Затое самі жаніх з нявестаю проста свяціліся ад шчасця.

Наста, Зміцер, "Народная Воля" шчыра вас віншуе! І зычыць доўгага, шчаслівага, светлага шляху разам па жыцці!

ЗА ПАРТОЙ

## В вузы — недобор. С оплатой перебор?

*В этом году высшие учебные заведения ощущают явный недобор студентов. Его, правда, прогнозировали заранее — из-за повышения планки ЦТ и уменьшения выпускников школ почти на 4 тысячи.*

Первый заместитель министра образования **Александр Жук** озвучил такие цифры: из 45 государственных вузов только 19 полностью выполнили план бюджетного приема, всего же из более 24 тысяч бесплатных мест вакантными остались семь процентов — около 1750. Меньше стало в государственных вузах и "платников": их количество сократилось на 19,2 тысячи, то есть минус 36 процентов! И это несмотря на то, что белорусские вузы широко открывают дверь иностранным студентам: у нас учатся 14 тысяч человек, в основном из Туркменистана, России и Казахстана.

Одна из причин недобора на платную форму обучения — цена за учебу. С 1 сентября она повысится на 20 процентов, подтвердили в Министерстве образования. В среднем "ценник" на учебный год составит около 12 миллионов рублей. Самые дорогие специальности — в пределах 18 миллионов. Меньше всех будут платить выпускные курсы — минимум 7,3—7,5 миллиона рублей.

**Кирилл БУБНОВ.**

ПРАГНОЗ

## Барыс ЖАЛІБА: «Самая галоўная задача для Нацбанка зараз — стрымаць дэвальвацыю ў межах плаўнай»

*Спецыялісты Навукова-даследчага эканамічнага інстытута Міністэрства эканомікі лічаць, што з мэтай ліквідацыі наяўных дысбалансаў у эканоміцы неабходна ў кароткатэрміновы перыяд правесці плаўную дэвальвацыю нацыянальнай валюты.*

Эканамісты адзначаюць, што "дэфіцыт знешняга гандлю таварамі, які расце з месяца ў месяц", пагаршае сітуацыю ў плацежным балансе. "Адставанне тэмпаў дэвальвацыі нацыянальнай валюты ад тэмпаў інфляцыі і ўмацаванне беларускага рубля адмоўна адбіваецца на цэнавай канкурэнтаздольнасці беларускай прадукцыі", — канстатуюць эксперты.

— Прагноз аб плаўнай дэвальвацыі абсалютна лагічны, і гэта ні для кога не сакрэт, — адзначыў "Народнай Волі" прафесар-эканаміст **Барыс Жаліба**. — Усё бачна, калі паглядзець на сітуацыю ў беларускай эканоміцы. А калі дадаць сюды абвал на калійным рынку? Некаторыя ў сувязі з гэтым нават прагназуюць страты прыбытку на ўзроўні мільярда долараў, а значыцца, напружанасць на валютным рынку будзе толькі ўзрастаць. Зрэшты, плаўная дэвальвацыя пачалася яшчэ ў чэрвені, і толькі за тры летнія месяцы рубль у адносінах да долара абясцэніўся прыкладна на 300 рублёў. Нацбанк пакуль стрымлівае курс тымі інструментамі, што мае ў сваім распараджэнні. Камерцыйныя банкі падымаюць працэнты па рублёвых дэпазітах, каб не было лішняга попыту на валюту, на біржы ажыццяўляецца валютная інтэрвенцыя... Самая галоўная задача для Нацбанка зараз — стрымаць дэвальвацыю ў межах плаўнай.

**— Які курс долара можа быць да канца гэтага года?**

— Думаю, утрымаецца на ўзроўні 9200 рублёў за долар. Калі не будзе абвалу.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

СТАЛА ВЯДОМА...

## Следчы камітэт Беларусі абвясціў у вышук расійскага сенатара і бізнесмена Сулеймана Керымава

Пра гэта было аб'яўлена ў панядзелак.

Дзеянні Сулеймана Керымава кваліфікаваны беларускімі следчымі як арганізацыя злоўжывання ўладай і службовымі паўнамоцтвамі (частка 3 артыкула 424 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь). Максімальная санкцыя артыкула прадугледжвае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін да 10 гадоў з канфіскацыяй маёмасці.

Акрамя таго, беларускія следчыя сцвярджаюць, што ў ходзе расследавання крымінальнай справы ў іх распараджэнні разам з выяўленымі фактамі шкоды Рэспубліцы Беларусь апынуліся шматлікія матэрыялы аб здзяйсненні Сулейманам Керымавым, Уладзіславам Баўмгертнерам і іншымі абвінавачанымі дзеянняў, якія нанеслі значны ўрон Расійскай Федэрацыі і ўтрымліваюць у сабе прыкметы злачынстваў, прадугледжаных крымінальным заканадаўствам Расіі. У сувязі з гэтым Следчым камітэтам Беларусі аналізуюцца і абагульняюцца названыя матэрыялы для накіравання ў Генеральную пракуратуру Расійскай Федэрацыі.

Нагадаем, што Сулейман Керымаў уваходзіць у дваццатку самых багатых людзей Расіі.



### ТЫМ ЧАСАМ

Адразу пасля таго, як прагучала навіна пра тое, што ў справе "Беларускай калійнай кампаніі" з'явіўся новы абвінавачаны, мы паспрабавалі звязацца з самім Сулейманам Керымавым. Ён знаходзіўся не ў Расіі, а на сваёй яхце ICE, якая трымала курс на французскі курортны горад Антыб. Ад каментарыяў Сулейман Керымаў адмовіўся. Ягоныя памочнікі ў сваю чаргу нагадалі, што Сулейман Керымаў больш не займаецца бізнесам і ні ва "Уралкалии", ні ў "Беларускай калійнай кампаніі", ні ў якіх-небудзь іншых кампаніях не займае ніякіх пасад.

**Алена ДАВЫДАВА.**

СЛЫШАЛИ?

## Рядом с Куропатами поставят православный храм

Православный храм построят в минской деревне Цна рядом с урочищем, ставшим коллективной могилой для тысяч человек.

Об этом сообщил настоятель прихода общины в честь Успения Пресвятой Богородицы Адриан Латушко. Торжественное освящение поклонного креста на месте основания будущей церкви пройдет 8 сентября.

По благословению митрополита Филарета в Успенской общине возносятся молитвы о тех, кто пострадал в смутное время 1930—1940-х годов. Сейчас богослужения проводятся во временном помещении в Сельхозпоселке. Место под строительство Успенской церкви было выделено в июне этого года.

ТЭМА ДНЯ

# Расійска-беларуская калійная вайна спусцілася ў шахты

*"Беларуськалій" скарачае вытворчасць і пераводзіць рабочых на дзве трэці аклада*

Як паведаміў намеснік гендырэктара прадпрыемства па ідэалагічнай рабоце і кадрах **Анатоль Махлай,** "гэта звязана з перавытворчасцю".

Цяпер на прадпрыемстве працуюць толькі два руднікі з чатырох, бо выробленыя ўгнаенні проста няма куды дзець. Як заявіў на прэс-канферэнцыі ў Мінску гендырэктар "Беларуськалія" Валерый Кірыенка, *"пакупнікі занялі пазіцыю чакання, і ў сувязі з гэтым новыя кантракты на набыццё калійных угнаенняў пакуль не заключаюцца".*

Такім чынам, Беларусь засталася сам-насам са сваімі калійнымі праблемамі, і арышт гендырэктара "Уралкалия" Уладзіслава Баўмгертнера вырашэнню гэтых праблем не паспрыяў. Хутчэй наадварот.

Анатоль Рылоў, выканаўца абавязкаў старшыні Незалежнага прафсаюза гарнякоў, аднак, сцвярджае, што працоўныя "Беларуськалія" ўспрынялі апошнія падзеі спакойна. *"Ёсць прыпыненне вытворчасці, звязанае са змяншэннем адгрузкі прадукцыі,* — гаворыць спадар Рылоў. — *Людзям прапануецца пайсці на дзве трэці аклада ці ўзяць адпачынак. Пакуль сітуацыя пад кантролем кіраўніцтва. І раней былі такія сітуацыі, калі не сыходзіліся з пакупнікамі ў цане і даводзілася цану трымаць. Выстаім мы ў гэты цяжкі час. Усё наладзіцца, і ўсё будзе добра. Калектыў цалкам падтрымлівае генеральнага дырэктара. Незалежны прафсаюз таксама яго падтрымлівае. Віны дырэктара няма ніякай у тым, што адбылося. Паступілі подла тыя людзі, якія маюць права заключэння дамоў. Нармальна мы працавалі і да БКК. Але такога не чакалі ад сваіх калег і братоў".*

Што ж тычыцца Уладзіслава Баўмгертнера, то ён застаецца ў СІЗА. Самае цікавае, што большасць аналітыкаў, якія напачатку не маглі зразумець, чаго Мінск хоча дабіцца гэтым арыштам, зараз выказваюць меркаванне, што, нягледзячы на ўсю гэтую хвалю абвінавачванняў і папрокаў, Мінск хоча... вярнуцца да былых умоў продажу калійных угнаенняў — працаваць на сусветным рынку разам з расіянамі. Што выйдзе з гэтай спробы заключыць *"шлюб па прымусе"* — паглядзім. Але на тэму арышту Уладзіслава Баўмгертнера ўжо выказаўся памочнік прэзідэнта Расіі па знешняй палітыцы Юрый Ушакоў, запатрабаваўшы неадкладнага вызвалення бізнесмена.

**Алег СНОЎ.**

### Калі вярстаўся нумар

Губернатар Пермскага краю **Віктар Басаргін** і дэпутат Дзяржлумы Расіі ад гэтага рэгіёна **Ігар Барынаў** далі асабістыя паручальніцтвы за Баўмгертнера. Па словах расійскага адваката бізнесмена **Аляксея Басістава**, у панядзелак адпаведныя дакументы былі накіраваны ў беларускі суд, які будзе разглядаць хадайніцтва арыштаванага і ягоных адвакатаў аб змене меры стрымання і вызваленні з-пад варты. Дарэчы, самалёт Уладзіслава Баўмгертнера чакае яго ў мінскім аэрапорце. Дазволу на яго вылет беларускія ўлады не даюць.

ТЭНДЭНЦЫІ

## Палітыка? Не цікава...

Пра гэта сведчаць вынікі апошняга апытання, якое правёў зарэгістраваны ў Вільнюсе Незалежны інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (НІСЭПД).

***Якое выказванне характарызуе ваша стаўленне да палітыкі?***

| Варыянт адказу | % |
|---|---|
| Маё жыццё залежыць ад палітыкі, і я актыўна ўдзельнічаю ў ёй | 5,4 |
| Маё жыццё залежыць ад палітыкі, але я ў ёй не ўдзельнічаю, таму што гэта бескарысна | 23,7 |
| Маё жыццё залежыць ад палітыкі, але я ў ёй не ўдзельнічаю, таму што гэта небяспечна | 11,1 |
| Маё жыццё слаба залежыць ад палітыкі | 22,5 |
| Я не цікаўлюся палітыкай | 34,2 |
| Цяжка адказаць / Няма адказу | 3,1 |

"Нагадаем, што старажытныя грэкі называлі сваіх суайчыннікаў, якія не цікавяцца грамадскімі справамі і не ўдзельнічаюць у сходах грамадзян, "ідыётамі", — *каментуюць вынікі апытання эксперты НІСЭПД.* — Мяркуючы па адказах на вышэйзгаданае пытанне, у даную катэгорыю старажытныя грэкі ўключылі б абсалютную большасць беларусаў...".

НУ І НУ!

# Родина ці Радзіма?

## Дзень беларускага пісьменства адкрывалі па-руску

У мінулыя выхадныя ў Быхаве пачаліся ўрачыстасці, прымеркаваныя да Дня беларускага пісьменства.

Урачыстасці пачаліся з адкрыцця адрамантаваных у райцэнтры кінатэатра, Дома культуры, чыгуначнага і аўтобуснага вакзалаў. Чырвоныя стужкі перазалі службоўцы з міністэрстваў культуры, інфармацыі, чыноўнікі з Магілёўскага аблвыканкама і Быхаўскага райвыканкама.

Першым у Быхаве адкрылі адрамантаваны кінатэатр "Родина". Назву на фасадзе пакінулі рускамоўнай. Цырымонія адкрыцця установы гэтаксама праходзіла па-руску. Не здолелі вымавіць ніводнага беларускага слова ні старшыня аблвыканкама Пётр Руднік, ні міністр культуры Беларусі Барыс Святлоў.

Барыс Святлоў, напрыклад, адзначыў: "...Хоть мы и начинаем наши большие мероприятия с открытия кинотеатра, кинотеатра "Родина", но мы всегда помним, что в начале было слова, и в начале была Родина..."

Дык усё ж такі: Родина ці Радзіма?..

І Дзень пісьменства якога народа адзначалі ў Быхаве? Калі беларускага, то чаму так здзекліва ставяцца высокія чыноўнікі да яго мовы, да яго роднага слова? Хто-хто, а старшыня аблвыканкама павінен дасканала валодаць беларускай мовай, прапагандаваць яе, як і гісторыю, традыцыі свайго краю.






А што тычыцца міністра культуры, то зусім незразумела, чаму ён праігнараваў "Радзіму", замяніўшы яе на "Родину".

Калі б нешта падобнае адбылося ў суседняй Украіне альбо Літве, зямля гарэла б пад нагамі чыноўнікаў-манкуртаў.

Дзеля справядлівасці заўважым: а вось Аляксандр Лукашэнка павітаў удзельнікаў і гасцей урачыстасцяў Дня **беларускага** пісьменства менавіта на роднай, беларускай мове. Нягледзячы на тое, што "Советская Белоруссия" выдаецца на рускай мове, яго зварот у суботнім нумары надрукаваны на прыгожай беларускай мове.

Шкада, што цудоўны пасыл А.Лукашэнкі не дайшоў да яго чыноўнікаў.

ТЭНДЭНЦЫЯ

## Рызыка дэвальвацыі павялічылася, але пра абвал рубля казаць не выпадае

Паводле меркавання фінансавага аналітыка кампаніі "Альпары" **Вадзіма Іосуба,** калійны канфлікт і магчымыя з-за гэтага так званыя гандлёвыя войны паміж Расіяй і Беларуссю павялічваюць магчымасць дэвальвацыі.

— *Ужо знізілася паступленне валюты на рынак. З-за гэтых гандлёвых войнаў яно ў бліжэйшай перспектыве можа знізіцца яшчэ больш,* — гаворыць эксперт. — *Гэта зменшыць прапанову валюты на знешнім рынку, у выніку чаго кошт замежных валют будзе расці хутчэй, чым гэта магло б быць без усіх гэтых здарэнняў. Але пакуль сітуацыя застаецца досыць стабільнай, і неабходнасці пазбаўляцца ад рублёвых зберажэнняў няма. Ніякага дэфіцыту валюты, немагчымасці канвертацыі рублёў у долары не назіраецца. Нават пры павялічаных тэмпах росту кошту валюты захоўваць грошы ў беларускіх рублях усё яшчэ выгадней. Таму пакуль няма прычын для нейкіх змен у паводзінах простага чалавека на рынку.*

Іншая справа, падкрэслівае Вадзім Іосуб, што беларусы зараз павінны пільна сачыць за сітуацыяй, бо не выключана, што хутка могуць з'явіцца падставы для тэрміновага пераводу рублёў у до-

ПАЗІЦЫЯ

# «Калійны» канфлікт праз келейную інтэграцыю

*Рух "За Свабоду"абнародаваў сваю пазіцыю адносна канфлікту вакол Беларускай калійнай кампаніі і новага вітка напружанасці ў беларуска-расійскіх дачыненнях. Вось тэкст заявы:*

"Мы ўсе сёння сведкі, як аўтарытарны кіраўнік Беларусі і алігархі з суседняй краіны змагаюцца за беларускае нацыянальнае багацце. Беларускі ж народ загнаны ў стан пасіўнага і бездапаможнага назіральніка.

Супраць арыштаванага дырэктара "Уралкалия" Уладзіслава Баўмгертнера былі ўжыты метады, якія, на вялікі жаль, даўно сталі нормай паводзін праваахоўных органаў у дачыненні да грамадзян Беларусі.

Цяпер закладнікам стаў грамадзянін Расіі, якую звычайна не цікавіць сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі. Калі ж беларускае кіраўніцтва ў сваім стылі адрэагавала, па сутнасці, на эканамічны падрыў, Масква загаварыла і аб праве, і аб джэнтльменскіх паводзінах. А ў дадатак прымяніла традыцыйны "анішчанкаўскі" інструментарый.

На ўзроўні прыроды ўлады і міждзяржаўных дачыненняў "калійны" канфлікт яскрава адлюстраваў сутнасць так званай інтэграцыі паміж Беларуссю і Расіяй: праз келейныя закрытыя для кантролю грамадскасці пагадненні і дзеянні ўмацоўваць алігархічна-аўтарытарныя рэжымы ў нашых краінах.

І ў Беларусі, і ў Расіі адсутнічае празрыстасць і падсправаздачнасць народу ў справах дзяржаўнага кіравання і рэгулявання дзейнасці гаспадарчых суб'ектаў. Гэты выпадак паказвае: калі эканамічныя рашэнні прымаюцца і міждзяржаўныя дачыненні выбудоўваюцца таемна ад народа і па постсавецкіх "паняццях", то ставяцца пад пагрозу незалежнасць і суверэнітэт краіны, наносіцца шкода інтарэсам грамадзян Беларусі.

Адзіны спосаб абараніць Беларусь і яе актывы ад рэйдарскага захопу з боку буйнога бізнесу або буйнейшай дзяржавы — прымусіць органы дзяржаўнай улады Беларусі працаваць у інтарэсах беларускага народа і ўстойлівага развіцця краіны, а не ў інтарэсах абслугоўвання вузкага кола асоб...

Менавіта таму мы выступаем за правядзенне "Народнага рэферэндуму", на якім будуць узняты пытанні, вырашэнне якіх зробіць сістэму дзяржаўнага кіравання ў Беларусі больш адкрытай, а ўладу — падкантрольнай. Мы павінны разам бараніць Беларусь і яе нацыянальныя інтарэсы, забяспечыць беларускаму народу права быць гаспадаром на сваёй зямлі і самому вызначаць сваю будучыню".

ДОПЕКЛО!

# «Правительство дискредитирует политику государства»

## Официальные профсоюзы выступили с официальным заявлением

*Долго молчавшие и оправдывавшие все действия власти официальные профсоюзы наконец не выдержали. Заявление о недопустимости необоснованного снижения пособий по временной нетрудоспособности и по беременности и родам, принятое на президиуме федерации, похоже, станет первой пробой бунта.*

"Федерация профсоюзов Беларуси выражает глубокую озабоченность новым Положением о порядке обеспечения пособиями по временной нетрудоспособности и по беременности и родам, утвержденным постановлением Совета министров Республики Беларусь от 28 июня 2013 г. №569.

Принятый правительством документ существенно и необоснованно снижает эффективность социальной защиты работающих в период временной нетрудоспособности и не согласуется с проводимой белорусским государством социальной и демографической политикой.

Согласно новому постановлению, количество первых дней временной нетрудоспособности, оплачиваемых в размере 80% среднедневного заработка, увеличилось с 6 до 12 календарных дней. Увеличился также и расчетный период для исчисления пособия: с 2 до 6 месяцев. Внесенные изменения значительно ухудшат положение работников, за которых страховые взносы уплачивались менее 6 месяцев: в этом случае пособие по нетрудоспособности предусмотрено выплачивать в минимальном размере.

Считаем, что действие данного постановления приведет к сокрытию заболеваемости со стороны работников, а это в свою очередь вызовет увеличение массовых эпидемий респираторных заболеваний, рост травматизма и в целом снижение производительности труда.

Федерация профсоюзов Беларуси отмечает, что постановление принято с нарушением части третьей статьи 6 Закона Республики Беларусь от 22 апреля 1992 г. №1605-XII "О профессиональных союзах", а также пункта 2 Протокола поручений Президента Республики Беларусь А.Г.Лукашенко от 19 сентября 2002 г. №39, согласно которым нормативные правовые акты, затрагивающие трудовые и социально-экономические права и интересы граждан, принимаются с предварительным уведомлением соответствующих профсоюзов (объединений профсоюзов). Одновременно оно нарушает договоренности, закрепленные в Генеральном соглашении между правительством Республики Беларусь, республиканскими объединениями нанимателей и профсоюзов на 2011—2013 годы (подпункты 40.5 и 41.3).

Невыполнение правительством Республики Беларусь принятых на себя обязательств дискредитирует политику государства в области социального партнерства, нарушает согласованные трехсторонние принципы в области защиты труда.

Сто десять лет профсоюзы Беларуси вместе с профсоюзами Европы добивались того, чтобы работодатели честно оплачивали временную нетрудоспособность трудящихся, а нынешнее правительство Республики Беларусь взяло на себя единоличное решение отменить то, что десятилетиями отстаивали работники. Массовые болезни рабочих на сегодняшний день во многом обусловлены плохими условиями труда: промерзшими цехами, отсутствием горячей воды, соответствующей сезону спецодежды и оборудования для ее сушки. Об этом свидетельствуют мониторинги состояния санитарно-бытовых помещений на производстве, проводимые технической инспекцией труда ФПБ.

О многочисленных нарушениях нанимателями условий труда Федерация профсоюзов постоянно информирует правительство. Но вместо того, чтобы взять под особый контроль решение данных вопросов, чиновники решили залезть в кошельки трудящихся и уменьшить им выплаты по листам временной нетрудоспособности.

Исходя из интересов трудящихся и учитывая их мнение, Президиум Совета Федерации профсоюзов Беларуси выражает свое отрицательное отношение к постановлению №569 и требует от правительства Республики Беларусь его отмены в части увеличения количества дней, оплачиваемых в размере 80% среднедневного заработка, увеличения расчетного периода с 2 до 6 месяцев, а также изменений, повлекших значительное снижение пособий по беременности и родам".

РЭГІЁНЫ

## Заробкі ў Салігорску пакаціліся ўніз яшчэ з пачатку лета

Белстат апублікаваў даныя аб сярэднім заробку ў кожным з раёнаў Беларусі за чэрвень 2013 года.

Атрымліваць сталі больш паўсюль, апроч Салігорскага раёна. Там у чэрвені заробак-брута склаў 799 долараў (чыстымі — 695). Пры тым што яшчэ ў маі сярэдні заробак дасягаў 843 долараў.

## У 13 раёнах краіны знішчаны ўсе «дзяржаўныя» свінні

*А вось людзям трымаць свіней дазволілі*

Ад пачатку года пагалоўе свіней у калгасах скарацілася на 84 тысячы галоў. На пачатак жніўня ў калгасах Беларусі заставалася 3.235.447 свіней.

Зусім не засталося "дзяржаўных" свіней у Ганцавіцкім, Жабінкаўскім, Маларыцкім, Віцебскім, Сенненскім, Брагінскім, Кармянскім, Лельчыцкім, Лоеўскім, Кастрычніцкім, Хойніцкім, Бялыніцкім, Крычаўскім раёнах.

І ТАК БЫВАЕ...

## На Глыбоччыне дырэктар сельгаспрадпрыемства не адпрацаваў і пяці дзён

Ён звольніўся, пабачыўшы мільярдныя запазычанасці гаспадаркі.

Новы дырэктар Іван Камзакоў быў прызначаны ў ААТ "Канстанцінаў Двор" у чацвер, 15 жніўня. А ўжо ў панядзелак, 19 жніўня, ён пакінуў сваю пасаду.

Адкрытае акцыянернае таварыства "Канстанцінаў Двор" уваходзіла ў лік 60 базавых гаспадарак краіны. Але за тры з паловай гады, якія мінулі пасля смерці кіраўніка гаспадаркі Віктара Асона, таварыства з перадавога ператварылася ў даўжніка-мільярдэра.

ЗДАРЭННЕ

## Прысмакталіся

*У мінулыя выхадныя Міністэрства па надзвычайных сітуацыях паведаміла пра прарыў магістральнага нафтаправода Мазыр—Брэст рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Гомельтранснафта Дружба", які адбыўся ў Драгічынскім раёне Брэсцкай вобласці.*

Як пазней высветлілі спецыялісты, прычынай здарэння стала несанкцыянаваная ўрэзка ў нафтаправод. У выніку Драгічынскім раённым аддзелам Следчага камітэта распачата і расследуецца справа па ч.1 арт.14 і ч.3 арт.205 (замах на крадзеж у буйным памеры) Крымінальнага кодэкса па факце разліву нафты на магістральным нафтаправодзе Мазыр—Брэст паблізу вёскі Скібічы.

Цікава, што разліў выявіла не тэхніка і не спецыялісты, а жыхарка вёскі, якая пачула пах і адразу паведаміла ў МНС.

ТОЛЬКІ ФАКТЫ

## Чаму «Уралкалий» пайшоў на абвал цэн на калійныя ўгнаенні?

Многім так і не зразумела, чаму расійская кампанія, якая сама выпускае калійныя ўгнаенні, пайшла на абвал цэн. Здаецца, яны падсеклі сук, на якім сядзіць не толькі "Беларуськалій" і беларускі бюджэт, але і свой асабісты. Можа, яны вар'яты?

На самай справе адказ на гэтае пытанне ў простых разліках.

Кожны вытворца, як вядома, выбірае сваю стратэгію поспеху. Адны гатовы ахвяраваць аб'ёмамі, трымаючы высокую цану, іншыя, наадварот, гатовы прадаваць танней, але больш.

Вось так і разышліся стратэгіі "Уралкалия" і "Беларуськалія".

Сабекошт вытворчасці 1 тоны хлорыстага калію на беларускім прадпрыемстве — каля 125 долараў.

Сабекошт вытворчасці той жа 1 тоны хлорыстага калію на расійскім прадпрыемстве — 63 долары.

Ясна, што "Уралкалий" можа сабе дазволіць дэмпінгаваць, прапануючы пакупнікам вельмі танныя калійныя ўгнаенні. А ўлічваць пры гэтым інтарэсы беларускага боку ці не ўлічваць — гэта ўжо іх добрая воля. У любым выпадку нічога крымінальнага ў прапанове прадукцыі па нізкіх цэнах няма. Роўна так Беларусь дэмпінгуе, напрыклад, на малочным рынку. І ніхто нашых бізнесменаў за гэта не арыштоўвае...




СКАНДАЛ

# Стоп-сігнал

Расія ўвяла забарону на пастаўкі свініны з Беларусі. Афіцыйная прычына — эпідэмія афрыканскай чумы свіней, хаця новых ачагоў захворвання апошнім часам у Беларусі выяўлена не было.

Нагадаем, што забарону на пастаўкі беларускай свініны ўвялі ўсе нашы суседзі — Украіна, Літва, Польшча, Латвія. Адзіным акенцам, куды магла трапляць прадукцыя беларускай свінагадоўлі, заставалася Расія — раней гэта краіна забараніла ўвоз прадукцыі толькі з Гродзенскай і Віцебскай абласцей, у якіх і былі зафіксаваны ачагі захворвання. І вось зачынілася і гэтае, апошняе, акенца.

Назіральнікі адразу звярнулі ўвагу на тое, што забарона на ўвоз беларускай свініны была ўведзена Расіяй раптоўна, без якіх-небудзь свежых нагод і падстаў. Таму разглядаюць гэтае рашэнне ў звязку з арыштам у Мінску гендырэктара "Уралкалия" Уладзіслава Баўмгертнера і іншымі мерамі маральна-эканамічнага ціску, якія прадпрымае расійскі бок дзеля яго вызвалення. Накшталт пагроз забараніць увоз беларускага малака, скарачэння аб'ёмаў паставак нафты і таму падобнага.

Кошт пытання ў "справе Баўмгертнера", нагадаем, 100 мільёнаў долараў.

Кошт "свінога пытання" можа быць значна большым. Так, у 2012 годзе пастаўкі свініны ў Расію перавысілі 60 тысяч тон, яшчэ 100 тысяч тон было прададзена ў выглядзе гатовых вырабаў са свініны. Зараз усе гэтыя пастаўкі спынены.

**Ігар МАРОЗАЎ.**

# Кто и сколько потерял?

## Расчеты показали, что постановление №569 больше всего ударило по молодым специалистам и женщинам в декретном отпуске

В качестве примера возьмем листок нетрудоспособности условного Василия Иванова. Его заработок в течение 6 месяцев составлял 6 млн рублей. Ему открыт листок нетрудоспособности на 10 календарных дней (с понедельника). Если производить расчет размера пособия по-старому, то размер выплат составит 1 млн 953 тыс. 490 рублей, при расчете по новому положению — 1 млн 573 тыс. 770 рублей. Разница — 379.720 рублей не в пользу заболевшего сотрудника.



А уж если работник — новичок в компании, это его первое место работы и он заболел, проработав месяц, то, соответственно, период уплаты страховых взносов составляет менее 6 месяцев. А значит, он заслужил лишь минимальный размер пособия по нетрудоспособности. В таком случае вместо среднедневного заработка за дни болезни ему начислят пособие в минимальном размере, где за основу взято 50% бюджета прожиточного минимума. БПМ с августа 2013 года составил 1 млн 26 тыс. 290 рублей, половина БПМ — 513.145 рублей. "В этом случае за 10 дней больничного у данного работника размер пособия по временной нетрудоспособности составит всего 171.050 рублей. При расчете по старому положению при заработной плате 2,5 млн рублей размер больничного у данного работника составил бы 813.953 рубля. Разница — 642.903 рубля", — приводят пример в главном управлении производственной и социально-экономической работы аппарата Совета ФПБ.

Новое постановление озадачит и тех, кто долго болеет. Напомним, пособие по временной нетрудоспособности назначается в размере 80% среднедневного заработка за первые 12 календарных дней (раньше 80% оплачивали лишь первые 6 календарных дней) нетрудоспособности и в размере 100% среднедневного заработка за последующие календарные дни непрерывной временной нетрудоспособности. Но если человек разболелся к концу недели (а больничный частенько закрывают пятницей) и в понедельник все еще не вылечился, придется идти на новый больничный. По старому положению пособие рассчитали бы за непрерывную нетрудоспособность, так как перерыв был только на нерабочие по графику дни. А по новому постановлению больничный прервался, и с понедельника — снова 80% на протяжении 12 дней.

Новшества серьезно ударят по положению женщин с маленьким стажем работы. Пособие по беременности и родам для женщин, страховые взносы за которых уплачивались менее чем 6 месяцев, будет рассчитываться исходя из минимального размера (50% бюджета прожиточного минимума — 513.145 рублей). "Например, работнице, отработавшей у нанимателя 2 месяца, размер пособия по беременности и родам за 126 календарных дней составит 2 млн 155 тыс. 210 рублей. По старому положению при заработной плате 2,5 млн рублей размер пособия составил бы 10 млн 465 тыс. 120 рублей. Разница — 8 млн 309 тыс. 910 рублей", — подсчитали в главном управлении производственной и социально-экономической работы аппарата Совета ФПБ.

ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА

## Сямён Шапіра, вядома ж, старшыня Гродзенскага аблвыканкама, а не райвыканкама

У "Народнай Волі" за 27 жніўня надрукавана інтэрв'ю з прафесарам Вячаславам Вітальевічам Шведам, якога не так даўно звольнілі з Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта. У гэтым матэрыяле ў адным месцы выпадкова сказана, што Сямён Барысавіч Шапіра — старшыня райвыканкама, хоць добра вядома, што ён старшыня Гродзенскага аблвыканкама.

Прыносім прабачэнне Сямёну Барысавічу і чытачам.

## Зноў не адбылося

Адкрыццё лядовай арэны ў Оршы чарговы раз перанеслі на няпэўны тэрмін. Адкрыццё спартыўнага аб'екта адкладваецца ўжо з 2011 года. У аддзеле адукацыі, спорту і турызму Аршанскага райвыканкама тлумачаць, што адкрыццё лядовай арэны "чакаецца не раней як у другой палове верасня, не выключана, што нават у кастрычніку".

КРЫЎДА

# «Дарагія нашы ветэраны...»

Як узнёсла прамаўляюцца гэтыя словы на розных святах, асабліва ў Дзень Перамогі; былым франтавікам і партызанам уручаюць кветкі, падарункі, абяцаюць атуліць клопатам і павагай. Слухаеш такое — і душа радуецца: не забываюць старых ветэранаў, подзвіг старэйшых пакаленняў.

Але, але... Адно-адзінае слова можа перакрэсліць добрыя дэкларацыі, нанесці новыя раны і без таго зраненым, нямоглым ужо пераможцам.

...Прыходжу нядаўна на нашу пошту — даслаць добраму знаёмаму невялічкую пасылачку. Чарга была там даволі доўгая, а я ў той дзень адчуваў сябе кепска: і гады (ужо не за гарамі 90), і чатыры раненні, і не лепшае надвор'е ў той дзень давалі аб сабе знаць. Аднак адразу не стаў набліжацца да акенца, уважліва агледзеў чаргу. У ёй — адзін да аднаго — па ўзросце мае ўнукі. Пытаюся ў іх, ці не супраць таго, каб не стаяў? У адказ — маўчанне: у знак згоды ці пратэсту, не зразумець... Дзяўчына, якая абслугоўвала кліентаў, добра ведала, што я інвалід вайны і маю ўсім вядомае права на пазачарговае абслугоўванне. Яна без лішніх слоў прыняла ў мяне пасылку. Напэўна, і ў чарзе многія мяне ведалі, бо Слаўгарад — гэта вам не двухмільённы Мінск. У свой час я быў старшынёй мясцовага гарсавета, часта сустракаўся з людзьмі. Ды і цяпер прыходжу ў гарадскі парк да брацкай магілы, мяне запрашаюць на літаратурныя вечарыны ў бібліятэкі і школы, на гутаркі з моладдзю, выступленні перад жыхарамі ў святочныя дні. Я ўдзячны за ўвагу, за тое, што мой жыццёвы вопыт камусьці прыдаецца. А тут...

Мажная маладзіца ў чарзе ўсё ж не вытрымала майго "нахабства":

— Надо, как все, занимать очередь, а не лезть нахально!

Толькі і паспеў ёй сказаць: "Ды сваю чаргу я заняў яшчэ 22 чэрвеня 1941 года...", як яна проста ўзарвалася:

— Мне абсолютно все равно, где и что вы занимали. Совести у вас нет! А еще старый человек...

Карацей, паставіла на месца мяне, такога бессаромнага.

...Не ўва мне асабіста, канечне, справа, і не тое баліць, што знячэўку нарваўся на неразуменне і грубасць. У нашым Слаўгарадзе зараз наўрад ці набярэцца з пяцёра такіх "нахабнікаў"-ветэранаў, і не ўсе могуць ужо нават хадзіць. Ведаю, па ўсёй Беларусі на 1 ліпеня нас засталося ўсяго 14 тысяч. Як жа ім, апошнім магіканам, патрэбна адчуць падтрымку, цеплыню знаёмых і незнаёмых...

Больш за ўсё ў выпадку на пошце ўразіла мяне не столькі гэтая маладзіца, колькі маўчанне чаргі, якой было ўсё да лямпачкі. Вось вам і "дарагія нашы ветэраны" ў паўсядзённым жыцці. З падобнымі праявамі — паказчыкам маральнага стану грамадства і сапраўднай цаны "патрыятычнага выхавання моладзі" — сутыкаюся, на жаль, не я адзін.

Аднак закон бумеранга ніхто не адмяняў...

**Фелікс ШКІРМАНКОЎ,**
**інвалід ВАВ II групы,**
**ганаровы ветэран,**
**сябра Саюза**
**беларускіх пісьменнікаў.**

*г.Слаўгарад.*

ВІНШУЮ!

*Шаноўная рэдакцыя "Народнай Волі"!*

*Прашу надрукаваць маё віншаванне Уладзіміру Арлову.*

*Мілы Уладзя! Сардэчна віншую Вас, слыннага суайчынніка, шчырага беларуса, таленавітага пісьменніка, асветніка, які раскрывае разуменне, адкуль наш род, з юбілеем, 60-годдзем!*

*Жадаю здароўя, моцы духу ў Вашай нястомнай працы.*

*Няхай радуе Вас Ваша дружная сям'я, хай расце здаровым і шчаслівым Ваш унучак Ясь Багдановіч Арлоў!*

*Жадаю Вам, каб яшчэ многія-многія гады не стамлялася Ваша душа вандраваць у прасторы і часе!*

***З любоўю і пашанай —***

**Марыя ЛУКАШУК,**
**маці Вашага сябра Аляксандра.**

*Брэст.*

МНЕНИЕ

## *Почему власть не вступает в диалог с Анатолием Левковичем...*

Все ясно, как божий день. Кто такой Левкович для Лукашенко? Никто, Попав в руководство Белорусской социал-демократической партии (Громада), он, как мне кажется, направил свои старания не на укрепление ее рядов, а на развал. Не без его помощи "съели" вначале Статкевича, отстранив от должности председателя, а затем и Козулина. В конце концов и сам за бортом оказался.

А теперь из Бреста призывает власти к какому-то диалогу. Цену таким, как Левкович, даже Лукашенко знает. А главное — любая власть считается с сильными, а с теми, за кем никто не стоит, она никогда не сядет ни за круглый, ни за квадратный стол.

**Борис ПОДЛУЖНЫЙ.**

*Минск.*

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## *З гэтае пары робім сахары!*

**Наведаўшы Мінскі падшыпнікавы завод, старшыня Мінскага гарвыканкама Мінска Мікалай Ладуцька заклікаў працоўных: "Цяпер на МПЗ выпускаюць 40 тысяч сякер за год. А трэба выпускаць 400 тысяч і прадаваць гэтую прадукцыю ў Расію, Украіну".**

*І пачуўся заклік слынны,*
*Абудзіў людскую раць:*
*"Прадпрыемствы ўсёй краіны*
*Трэба мадэрнізаваць!"*
*Прэзідэнта покліч гэты*
*Падхапіў сталічны "мэр":*
*"Дасягнём жаданай мэты,*
*Зажывём як след цяпер!"*
*А якія ж планы ў "мэра"?*
*Што яго прыдумаў клёк?*
*"Выраб грабляў і сякераў*
*Трэ паставіць на паток!"*
*Нехта выказаў насмешку,*
*Ну а хтосьці — проста здзек:*
*"Збочым мы на тую сцежку,*
*Па якой ішлі спрадвек".*
*"Мэра" план зусім нязграбны,*
*Прывядзе нас да бяды.*
*Мовіць так, на тыя ж граблі*
*Мы наступім, як заўжды".*
*Але большасць заклік "мэра"*
*Дружна ўспрыняла "на ўра":*
*"Далібог, такія меры*
*Нам прыняць даўно пара!"*
*Што ж, акрэслены задачы,*
*Будзе экспартным тавар:*
*Зробім сельскагаспадарчы*
*Традыцыйны інвентар!*
*Сёння попыт невялікі*
*Ёсць на нашы трактары.*
*МТЗ кляпаць матыкі*
*Будзе з гэтае пары.*
*"Інтэграл" свае праблемы*
*Можа вырашыць ураз.*
*Не купляюць мікрасхемы*
*За мяжой буржуі ў нас.*
*На заводзе — не вароны,*
*Шлях намецілі другі:*
*Будуць там рабіць бароны*
*І выкоўвацьмуць плугі.*
*Тэхналогіі-праграмы*
*Памяняў і "Амкадор",*
*Бо пагрузчык лепшы самы —*
*Жалязняк або сахор.*
*Ажывуць, як бачыш, нашы*
*Цуда-аграгарадкі,*
*Бо цяпер на "Гомсельмашы"*
*Вывад зроблены такі:*
*Гаспадар у вёсцы дбайны,*
*Ён, як кажуць, не сляпы,*
*Многа страт даюць камбайны,*
*Хай пшаніцу жнуць сярпы.*
*Да таго ж яшчэ ў дадатак*
*Прапанову нехта ўнёс:*
*Ад касілак і ад жатак*
*Перайсці на выраб кос.*
*Будуць змены і на МАЗе,*
*Пацякуць ракой рублі,*
*Бо цяпер ва ўсякім разе*
*Да высновы там прыйшлі,*
*Што не трэба людзям сёння*
*Вельмі многа "конскіх сіл".*
*Людзям трэба проста коні*
*(Не цураюцца й кабыл).*
*Дык рашылі на заводзе*
*(І намер той не пусты),*
*Што патрэбна — смех дый годзе! —*
*Шыць на экспарт хамуты.*
*Дзесь надзея на рубанкі,*
*Недзе ў планах малаткі...*
*Выдаюць крэдыты банкі*
*Ім са шчодрае рукі.*
*Хтось не дасць, магчыма, веры,*
*Ды насмешнікам назло*
*Сёння ўсё з падачы "мэра"*
*Акрыяла, ажыло.*
*Экспарцёры ходзяць цугам,*
*Абіваюць наш парог...*

* * *

*Пойдзем мы з касой і плугам*
*Да вяршынь і перамог!*

ИЗ ПИСЬМА

## *А у нас милиция-полиция...*

В царской России самыми уважаемыми людьми были учителя, врачи, инженеры. Образование, здоровье, технический прогресс — это были приоритеты. А у нас? Милиция-полиция...

**Иван БОЙКО.**

*Могилев.*

НАБОЛЕЛО

# Как вода стала дефицитом

И все-таки еще раз хочу вернуться к нормам потребления воды населением. Мы, белорусы, — "дзіўныя людзі", безропотны и покорны: дай нам норму одно ведро на неделю — и выдержим! Еще будем спрашивать, не тяжело ли чиновникам нас унижать. Ведь выдерживали трехчасовой перерыв в кормлении грудных детей (не каждый взрослый это выдерживает), так как это было постановление правительства. А врачи-педиатры стыдливо молчали, как сейчас молчат врачи-гигиенисты-валеологи.

По радио и телевидению нам рекомендуют пить восемь стаканов воды в день (а сколько раз надо посетить туалет?), душ или ванну принимать ежедневно утром и вечером, овощи и фрукты мыть под проточной водой, влажную уборку (особенно в сухой городской квартире) делать ежедневно, постельное белье менять один раз в десять дней (как в больнице) и так далее.

Выходит, рекомендации для здорового образа жизни — одно, а нормы на воду — совсем другое. В каком-то из номеров газеты пенсионер написал, что пол моет один раз в месяц, так как сорить некому. Уменьшите ему норму в два раза — и он уложится в нее, моя пол один раз в полгода или год. І ўсё будзе добра! Пытаясь уложиться в норму, люди (особенно пенсионеры из-за бедности) все доводят до абсурда, не смывают за собой после каждого посещения туалета, не принимают ванну, а обтираются мокрой тряпкой и то не каждый день, пищу готовят в непомытой от предыдущей еды кастрюле. А санитарные врачи молчат.

А как развивать на селе подсобное хозяйство, о котором так печется президент? Чем поить и мыть скот, поливать огород?

Многие все лето проводят на даче, то есть не потребляют воду в городе. А вернувшись, в том числе и из отпуска, начинают стирать накопившееся, генерально убирать квартиру, получают перерасход и платят в три раза больше.

В этой связи хочу обратиться к правительству:

1.Норму потребления воды устанавливать не из сложившегося фактического потребления, которое искажено до абсурда (возвращая людей в средневековую Европу, где почти не мылись), а из санитарно-гигиенической необходимости, объясняя людям, что пол мыть надо минимум один раз в неделю, а руки — всякий раз, вернувшись с улицы, и так далее. Ведь раньше норма была 220 литров в сутки — и вдруг 140 литров, и теперь норовят ее уменьшить.

2.Вообще отменить нормирование, повысив немного плату, чтобы "Водоканал" не был в убытке. Ведь вода — возможно, единственное природное богатство Беларуси, которым мы можем пользоваться сполна. Беларусь — не Кувейт, где вода в три раза дороже бензина. Ведь каждый будет платить по счетчику и будет стараться экономить, но уже цивилизованно. А деньги в бюджет поступают не с неба — мы, потребители воды, везем этот воз.

**С уважением —**

**А.А.ВУЙЧЕНКО.**

*Брест.*

А ЯК У ІХ?

## *Гэта «класіка»*

***Тэлефанавалі мне сваякі з Украіны. Кажуць, што ў сувязі з эпідэміяй афрыканскай чумы свіней у Беларусі ў іх зараз усім свінням і на прыватных падворках, і ў сельгаспрадпрыемствах робяць прышчэпкі ад чумы. Гэта — меры засцярогі, прынятыя ўкраінскім урадам.***

***Чаму нашым свінням беларускія ветэрынары нічога не рабілі, ведаючы, што ў Расію гэтая бяда ўжо прыйшла, а з гэтай краінай мы маем адкрытую мяжу? Няўжо ўкраінцам няма куды грошы падзець і яны робяць непатрэбныя прышчэпкі?***

**Віктар МАЛАХОЎСКІ,**
**Валожынскі раён.**

Пракаментаваць ліст нашага чытача мы папрасілі ветэрынара **Аляксея ЦЮЛЬКОВА:**

— Існуюць два захворванні з падобнымі назвамі — класічная чума свіней, ад якой ёсць вакцына, і афрыканская, ад якой вакцыны няма. У Беларусі некалі таксама праводзілі вакцынацыю ад класічнай чумы, ды і зараз гэта робіцца на буйных свінакомплексах. Аднак прышчэпкі ад класічнай чумы не гарантуюць, што свінні не захварэюць на афрыканскую чуму.

Украіна пачала вакцынацыю для таго, каб гарантаваць, што свінні не захварэюць хаця б на класічную чуму, што не будзе блытаніны з дыягностыкай захворвання, не будзе непатрэбнай панікі. Чаму гэтага не рабілі (ці рабілі) нашы ўлады, я не ведаю.

ПОГЛЯД

# Балюча і сорамна ад такіх рэстаўрацый!

Крыжа-Узвіжанская царква была болей за сто гадоў таму пабудавана ў вёсцы Замошша сённяшняга Асіповіцкага раёна, у колішнім цэнтры воласці. Пабудова была драўлянай і з'яўлялася тыповым, сціплым па архітэктурным рашэнні храмам у несапраўднарускім стылі. Царква перажыла і Першую, і Другую сусветныя войны, а ў канцы 40-х гадоў мінулага стагоддзя была перавезена ў Асіповічы, дзе і дагэтуль прымае вернікаў. Гэта адна з самых старых пабудоў у горадзе і самы стары праваслаўны храм на тэрыторыі Асіповіцкага раёна.


Царква: якой была...

Царкве, відавочна, патрабавалася рэстаўрацыя. Але ж яе ўласнік (РПЦ) вырашыў зрабіць замест рэстаўрацыі рэканструкцыю. Напэўна, гэта адбылося таму, што рэканструкцыю можна даручыць звычайным будаўнікам, а не запрашаць спецыялістаў з Мінска.


... і якой стала.

У выніку атрымалася, што сціплая вясковая царква ў вельмі шаноўным узросце была перароблена ў нешта гламурнае. Новае аздабленне, якога тут ніколі не было і якое ўвогуле не ўжывалася ў драўляным дойлідстве на гэтай зямлі, скажае вобраз храма, ідзе насуперак навакольнаму асяроддзю і гістарычнай праўдзе.

Балюча і сорамна ад такіх рэканструкцый! Ад таго, што і зараз, у XXI стагоддзі, уласнікі старажытных пабудоў на разумеюць неабходнасці захоўваць спадчыну сваіх продкаў.

**Юрый КЛЕВАНЕЦ.**
**Фота аўтара**
**і Д.САЎРЫЦКАГА.**

*г.Асіповічы.*

ПРОДОЛЖЕНИЕ ТЕМЫ

## *...Они работают только на себя*

Платить налоги обязаны все. А то получается, что одни работают — платят налоги, платят в Фонд социальной защиты, а другие "работают" только на себя, ничего не платят. Хотя и они, и их семьи пользуются всеми социальными благами.

Все эти "безработные" работают и в России, и на дачах, коттеджах. Но, думаю, еще больше работают тут, в Беларуси, в частных структурах неофициально.

Посмотрите газету "Ва-Банкъ", какие только виды деятельности и производство различных услуг не выполняют индивидуальные предприниматели (ИП)! Такие, что одному человеку невозможно сделать. А ведь права нанимать посторонних работников они не имеют (только родственников, но где их взять для таких работ?).

Вот и нашли они выход: нанимают неофициально. Не надо платить налоги и отчисления за всех в Фонд социальной защиты, а только за одного ИП. Выгодно "работникам", так как они все-таки получают больше, чем на производстве. И особенно самому ИП.

Главное управление юстиции и их секторы по развитию и предпринимательству, а также налоговая инспекция этого не знают? А если знают, то напрашивается резонный вопрос: почему допустили?

Какую сумму в виде налога должны платить эти люди, заместитель министра финансов Ермолович озвучил. Только, по-моему, они должны компенсировать за все годы "незаконного" зарабатывания денег, так как срока давности в налоговой системе не существует.

**Л.КОЗЛОВСКАЯ.**

*Минск.*

ПРОШУ СЛОВА!

# Кто защитит белорусских охотников и рыболовов?




В моей жизни есть одно большое увлечение — охота и рыбалка. Раньше все охотники состояли в общественной организации "Белорусское общество охотников и рыболовов" (БООР), которая довольно эффективно управляла охотой на территории нашей страны. Что сейчас происходит в этой сфере, хочу рассказать на примере Житковичского района, в котором я проживаю.

На территории района протекает одна из крупнейших рек страны — Припять. Приблизительно с 1996 года с образованием Национального парка "Припятский" было установлено платное любительское рыболовство для граждан страны. Хотя возникал вопрос: почему мы должны платить за рыбалку, если в соответствии с Конституцией страны леса, реки, природные ископаемые принадлежат народу? Такие же изменения коснулись и охоты. Администрация Нацпарка "Припятский" запретила доступ в лесные массивы для охотников нашего района, оставив для охоты только поля. Но в 2012 году охотников не пустили охотиться на зайцев даже на поля, мотивируя тем, что численность зайцев слишком мала. Резонно возникал вопрос: как ведется охотничье хозяйство такой структурой, как Национальный парк "Припятский", если численность зайцев сведена к нулю? Не пора ли передавать ведение охотничьего хозяйства другому охотопользователю?



Правда, с таким положением дел еще можно было как-то мириться. "Белорусское общество охотников и рыболовов" арендовало половину охотугодий Житковичского района, и на территории 31 км реки Припять любители рыбалки могли ловить рыбу бесплатно.

Однако в 2010 году "Белагропромбанком" было создано ОАО "Туровщина", охотничьи и рыболовные угодья были изъяты у БООР без обсуждения и согласования с основными арендаторами — рядовыми членами общества. Не было проведено ни конференции, ни собрания. Волевым решением вышестоящей организации житковичская РГОО "Белорусское общество охотников и рыболовов" была расформирована, и охотничье-рыболовные угодья были переданы ОАО "Туровщина". Дальше повторилась точно такая же история, как с Национальным парком "Припятский". По той же схеме был закрыт доступ в лесные массивы для местных охотников, ограничили охоту на прочие виды животных, такие как лиса, и охоту с гончими на зайца, куницу. Более того, новые хозяева установили цены на рыбалку еще большие (в 3 раза), чем Нацпарк.

Охотники и рыболовы Житковичского района собрали 120 подписей под обращением в Администрацию президента Республики Беларусь, в котором просили довести до сведения А.Г.Лукашенко нашу просьбу вернуть часть охотугодий, изъятых у Белорусского общества охотников и рыболовов. Но, как мы поняли, наше письмо глава государства в глаза не видел.

А ведь что происходит? Владельцы охотничьих угодий, как в ОАО "Туровщина", так и в Нацпарке "Припятский", заинтересованы только в том, чтобы организовать охоту для иностранцев, потому что можно больше заработать. Именно эта категория охотников и рыболовов наиболее желанна для администрации хозяйств нашего района. Из-за этих граждан закрыты леса и водоемы для местных охотников. В итоге что получилось? Численность дикого кабана намного превышает так называемую оптимальную численность, что в конечном итоге привело к вспышке африканской чумы, и теперь в пожарном порядке вся страна пытается снизить поголовье диких кабанов. Или последнее происшествие, которое произошло в Житковичском районе и потрясло всю страну. На озере Белом, которое находится в ведении ОАО "Туровщина", пьяный, управляя моторной лодкой, утопил пять человек. А ведь работники ОАО "Туровщина" знают, что использование моторной лодки на озере, которое находится в их ведении, запрещено. Но разве они следят за этим? Они только исправно собирают деньги за платное любительское рыболовство.

Мой отец прошел всю войну, защищая нашу родину от немецко-фашистских захватчиков, был охотником и рыболовом всю свою жизнь. Я не думаю, что он и многие другие воевали за то, чтобы коренное население не имело доступа к реке, в лес. Может быть, президент страны услышит обращения охотников Житковичского района и наведет порядок в сфере охоты и рыболовства, прекратит беспредел, который существует со стороны охотопользователей по отношению к нам, здешним жителям.

**Анатолий Васильевич**
**КОНОНУЧЕНКО,**
**почетный член**
**ОО "Белорусское общество**
**охотников и рыболовов".**

*Житковичский район.*

Народная Воля
http://www.nv-online.info
3 ВЕРАСНЯ 2013 г.

МАНІТОРЫНГ

# Святлану Алексіевіч у Швецыі называюць найбольш верагодным кандыдатам на Нобелеўскую прэмію

*У Беларусі апошніх яе твораў мы яшчэ не бачылі.*

*У жніўні завяршальная кніга дакументальнага цыкла Святланы Алексіевіч "Галасы Утопіі" выйшла ў Швецыі. Большасць шведскіх газет літаральна ў першы тыдзень пасля з'яўлення на прылаўках "Часу сэканд хэнд" адгукнуліся на яе шырокімі рэцэнзіямі як на адну з галоўных культурных і грамадскіх падзей апошніх гадоў. Практычна аднадушна рэцэнзенты называюць Святлану Алексіевіч найбольш верагодным прэтэндэнтам на Нобелеўскую прэмію па літаратуры.*

*У жніўні "Час сэканд хэнд" выйшаў таксама ў Францыі і Германіі. На гэтым тыдні ў продажы павінна з'явіцца рускае выданне кнігі.*

*Прыводзім вытрымкі з некалькіх водгукаў у шведскім друку аб новай кнізе Святланы Алексіевіч.*

## Падзенне раю

..."Час сэканд хэнд" — канчатковая кропка гіганцкага праекта беларускай пісьменніцы Святланы Алексіевіч. Праекта, які складаецца з пяці кніг і доўжыцца ўжо 40 гадоў. Хроніка, якая завяршае праект, — адабраныя пісьменніцай тысячы інтэрв'ю з людзьмі, у асноўным з жанчынамі, якія жывуць у краіне, што была для кагосьці страшнай, а для кагосьці шматабяцальнай альтэрнатыўнай звышдзяржавай. Падзагаловак гэтага магутнага патоку сведчанняў — "Канец чырвонага чалавека".

Алексіевіч накіроўвае яркі прамень святла ў тую гістарычна шэрую зону, у якой большасць людзей пражывае сваё прыватнае жыццё — зусім не залежна ад таго, народжаны яны ў сталінскім Савецкім Саюзе або ў бяспечнай Швецыі.

Яе метад можа падацца журналісцкім — простая мова, доўгія маналогі, апавяданні пра жыццё... смерць... боль... шчасце... сум... Алексіевіч нават расстаўляе па тэксце дробныя дужкі з аўтарскімі пазнакамі, робіць пункцірныя прабелы, але дамагаецца таго, што дыханне апавяданняў становіцца і нашым дыханнем! Так вялікая Гісторыя вырастае з маленькіх гісторый. Гэты літаратурны прыём узнімае ашаламляльныя кнігі Алексіевіч да ўзроўню вялікай літаратуры і ператварае "Час сэканд хэнд" у велізарнае і ўзрушваючае душу чытанне.

**Гунар БЕРГДАЛ** *("Хельсінгборгс Дагблад")*.

## Чырвоны акорд

Адзін з раздзелаў кнігі "Час сэканд хэнд" Святлана Алексіевіч прысвячае Беларусі. "Час сэканд хэнд" — самая складаная з кніг цыкла "Галасы Утопіі". Інтэнсіўнасць і тэмп выкладу мяняюцца тут па-майстэрску. Гэта цудоўны фінал усёй эпапеі.

Многія члены Шведскай акадэміі намякалі, што польскі журналіст Рышард Капусцінскі абавязкова атрымаў бы Нобелеўскую прэмію па літаратуры, калі б не яго раптоўная смерць у студзені 2007 года. Праз чатыры гады пасля яго смерці менавіта Святлана Аляксіевіч была ўдастоена літаратурнай узнагароды, заснаванай у яго гонар. Па маім сціплым меркаванні, Акадэмія магла хаця б часткова кампенсаваць сваю марудлівасць тым, што дала б суайчынніцы Капусцінскага (ён нарадзіўся менавіта там, дзе цяпер размешчана Беларусь) сваю галоўную прэмію. Яе творчасць, яе "Галасы Утопіі" не маюць ніякіх аналагаў у свеце — ні ў літаратуры, ні ў жыццёвым досведзе.

**Пётр ФРЭБЕРГ ІДЛІНГ** *(EXPRESSEN)*.

## Чытанне для добрых людзей

...У "Чарнобыльскай малітве" Алексіевіч пісала, што людзі, якія насяляюць Беларусь, успрымаюцца як чорныя скрыні, якія паміраюць, якія свет вывучаюць толькі ў якасці носьбітаў інфармацыі. Гэта вельмі дакладная карціна сучаснага грамадства і сучасных СМІ. Мы бачым нейкія мігценні: паўстанцы гінуць у межах арабскай вясны, уцекачы тонуць на шляху да берагоў Еўропы, закладнікі гінуць у тэрактах у Беслане і ў Маскве. Але Алексіевіч узломвае гэтыя чорныя скрыні, прабіваецца да тых, хто гаворыць з цемры. Трагедыя і рэальнасць часцяком зліты разам у яе адмысловым празаічным стылі, дзе рэплікі часта заканчваюцца шматкроп'ем, нібы сама рэальнасць — незакончаная і мае працяг.

"У мой час", гаворым мы, успамінаючы жыццё. Як быццам кожны з нас быў уганараваны агульным часам, як сваім уласным. На самай справе мы ганяемся за часам іншых людзей, калі ў газетах, дакументальных фільмах, у мемуарах і архівах шукаем "праўдзівыя гісторыі" і "вострыя прызнанні". Сума ўсіх індывідуальных часоў — гэта і ёсць калектыўная гісторыя ўсіх нас.

Але апавяданні пра жыццё іншых людзей маюць патрэбу ў моцных апавядальніках. А яны вельмі рэдкія. Беларуская пісьменніца Святлана Алексіевіч, верагодна, той апавядальнік, які бліжэй за ўсіх да магчымасці стварыць партрэт нашага агульнага часу. Яе праца ўнікальная і, нягледзячы на паглыбленне ў цемру, нялюдскасць і жах, ураджанне ад кнігі светлае, выдатнае. Ніколі раней "літаратура прызнанняў" не апісвала грамадства так дакладна. Яе рэпартажнае мастацтва было не раз узнагароджана, але зараз усё часцей яе згадваюць у якасці кандыдата на Нобелеўскую прэмію.

**Ульрыка МІЛЕСА** *("Дагенс нюхетэр")*.



ПАЛІТВЯЗНІ



## Дзень волі Аляксандра Францкевіча

3 верасня выходзіць на волю палітвязень Аляксандр Францкевіч, які быў асуджаны на тры гады пазбаўлення волі па "справе анархістаў".

Аляксандра абвінавацілі ў падпале шэрагу дзяржаўных устаноў, а таксама ва ўзломе сайта Наваполацкага гарвыканкама. На судзе сваёй віны ён не прызнаў.

Палітвязень адбываў пакаранне ў Івацэвіцкай калоніі ўзмоцненага рэжыму, якую ў народзе называюць "Воўчыя норы". Пасля вызвалення над ім будзе ўстаноўлены нагляд на паўгода.

ЗАПРАШЭННЕ

## Калі вас цікавіць гісторыя Беларусі...

У верасні ў сядзібе ТБМ у межах кампаніі "Будзьма" працягвае працаваць гістарычная школа "Гісторыя ў падзеях і малюнках" пад кіраўніцтвам кандыдата гістарычных навук **Алега Трусава**.

Заняткі будуць прысвечаны вывучэнню гісторыі Беларусі ў яе этнаграфічных межах. На занятках будуць праводзіцца гістарычныя віктарыны, пераможцы якіх атрымаюць цікавыя прызы.

Падчас заняткаў таксама прадугледжаны абмен думкамі наконт сучаснага стану беларускай мовы і яе функцыянавання ў грамадстве.

Такім чынам, удзельнікі змогуць павысіць свае веды па гісторыі Беларусі і папрактыкавацца ў веданні беларускай мовы.

У верасні заняткі адбудуцца: **16 верасня** (панядзелак), **23 верасня** (панядзелак), **30 верасня** (панядзелак).

Пачатак а 18-й на вул. Румянцава, 13.

Уваход вольны.

ФАКТ



## ...а багаты багацее

Справядлівая краіна, у якой няма алігархаў, няма маёмаснага разрыву, кожны рубель павінен быць чэсна заробленым, а то апынешся ў турме... Так малюе Беларусь афіцыйная прапаганда. Але праўду схаваць цяжка.

У Мінск ужо прыбылі першыя экзэмпляры аўтамабіляў новага пакалення Range Rover Sport. Па інфармацыі афіцыйнага дылера, кошт такой машыны пачынаецца ад 96 тысяч долараў. Тым не менш палова ўсёй квоты, выдзеленай на нашу краіну, ужо раскуплена.

На якім заводзе можна чэсна зарабіць такія грошы? Акадэмікам якіх навук трэба стаць?..

КРЫМІНАЛ

## Ну, бабы!

У Кобрынскім раёне пенсіянерка забіла мужчыну і закапала ў сваім двары.

Здарэнне адбылося ў вёсцы Вялікія Лепесы.

Як паведамляе прэс-служба Брэсцкага абласнога ўпраўлення ўнутраных спраў, міліцыянты знайшлі цела 58-гадовага мужчыны, які быў абвешчаны як зніклы без вестак. Ён быў закапаны на глыбіні аднаго метра ў двары жылога дома па месцы жыхарства.

Высветлілася, што забойца — 55-гадовая сужыцелька забітага. Пакуль ён спаў, жанчына 5 разоў ударыла яго абухом сякеры па галаве, вынесла цела ў двор і закапала.

Пенсіянерку затрымалі і завялі на яе крымінальную справу. За забойства ёй пагражае да 15 гадоў пазбаўлення волі.

МОДЕРНИЗАЦИЯ

*Андрей ПОРОТНИКОВ:*

# «Пока мы можем говорить о деградации армии»

*В очередном материале из цикла "Европейский диалог о модернизации для Беларуси" наш корреспондент беседует с руководителем проекта Belarus Security Blog* ***Андреем Поротниковым.***

**— Что представляет собой белорусская армия, готова ли она к современной войне?**

— Наши Вооруженные силы сегодня — уменьшенный вариант Белорусского военного округа. Надо понимать, что в мире есть только одна армия, способная вести современную войну, — армия США. Конечно, если вопрос стоит о противостоянии с Америкой, то мы не готовы, если о противостоянии с соседями — белорусская армия способна дать отпор.

Другой вопрос — насколько эффективно и как долго противостояние продлится.

**— Так насколько эффективно и как долго?**

— Смотря против кого...

По большому счету ни у Литвы, ни у Латвии собственных армий нет, присутствуют формальные структуры. Польша опасается, что белорусские танки дойдут до Варшавы за два дня, но я боюсь, что польские танки могут дойти до Минска за неделю. Если не вмешается Россия...

**— Действительно, Варшава очень обеспокоена предстоящими осенью учениями "Запад-2013". Есть ли основания для тревоги?**

— Скорее белорусская сторона должна выражать обеспокоенность. Ведь параллельно идут учения НАТО, которые подразумевают очень прозрачное противостояние с одной из восточноевропейских стран, задействование 5-й статьи договора о совместной обороне (массированная переброска войск и так далее).

А вот учения "Запад-2013" проводятся по ливийско-сирийскому сценарию. В нем есть мятеж: политический, этнически мотивированный, инспирированный извне; изолируется зона мятежа, и уничтожаются незаконные вооруженные формирования. Этот вариант практически отрабатывался несколько последних лет на всех совместных учениях. Противостоящая сторона — террористы, диверсанты, незаконные вооруженные формирования.

**— Подавление мятежей не сходит с повестки дня белорусско-российских учений уже несколько лет?**

— Фактически с начала событий в Ливии. Когда стало очевидно, что войска НАТО намерены вмешаться в этот конфликт.

**— "Плюшевый десант" летом прошлого года показал, что белорусская армия нуждается в реформах. В первую очередь войска ПВО, которые проспали шведский десант.**

— Проспала не ПВО — проспал пограничный наряд...

Любые реформы стоят денег, в области обороны — больших денег. Пока нет консенсуса в обществе и во власти по поводу того, что национальная оборона — приоритет не только на словах, но и в виде бюджетных ассигнований, здесь просто не о чем говорить. Пока, скорее, мы можем говорить о деградации белорусской армии.

**— В чем это проявляется?**

— Уходят люди, уходят, как правило, самые активные. Добавьте сюда и старение техники.

К тому же наблюдается определенный морально-психологический сдвиг: по результатам прошлогодней вступительной кампании самый высокий конкурс в Военную академию зафиксирован по специальности "идеологическая работа". Желающих трепать языками много, а вот охочих тягать танковые траки — не очень.

**— Что нужно сделать, как остановить деградацию белорусской армии?**

— Мы должны определиться, зачем нужна армия: защищать только свою территорию или ориентироваться на коллективную оборону. Во втором случае при необходимости стране придут на помощь извне, но она и сама периодически должна помогать своим союзникам участием в зарубежных операциях. Такой литовско-латвийский вариант, когда зачастую практически вся боеспособная часть армии находится в Афганистане или Ираке.

Мне кажется, предпочтительнее первый вариант, но он более дорогой. Международная практика определяет цену такого выбора — 3 процента ВВП. Как их тратить — вопрос отдельный.

Белорусское руководство не определилось. С одной стороны, звучат заявления, что мы готовимся защищать свою землю, но при этом Беларусь принимает на себя обязательства по линии ОДКБ в Центральной Азии, в том числе и по афганской проблематике.

**— Пока нет этого понимания, говорить о реформах вообще не приходится?**

— Армия для властей никогда не была приоритетом по простой причине: явной внешней угрозы нет. Есть набор внутренних угроз — политических, экономических, социальное недовольство людей. Соответственно, все внимание сосредоточено на проблемных точках. Если представить бюджет в виде огромного пирога и очереди, которая выстроилась за своей долей, то военные — в конце очереди.

**— Может ли случиться так, что сама армия станет взрывоопасным формированием?**

— Думаю, нет. Нет соответствующих традиций. Чтобы армия превратилась в самостоятельного игрока, военнослужащие, в первую очередь офицеры, должны иметь чувство корпоративности, что напрочь отсутствует в белорусской армии. Если мы возьмем страны третьего мира, классические латиноамериканские военные диктатуры, то там офицеры, как правило, выходцы из верхних слоев общества, династий, с XVIII—XIX веков носящие погоны. Если мы возьмем высшие слои белорусского общества, они своих детей в армию не отправляют. Белорусская армия — рабоче-крестьянская.

**— Беларуси ближе профессиональная армия или стоит сохранить призыв?**

— Создать полностью контрактную армию в наших условиях (если речь об этом) невозможно и не нужно. Следует отдавать себе отчет: возникни реальная угроза, Россия не столько бросится на помощь, сколько попытается решить свои вопросы за наш счет. Так уже не раз происходило в истории. Рассчитывать мы можем только на себя. А в этих условиях существующая система комплектования оптимальна, поэтому следует сохранить статус-кво.

Другое дело, нужно снижать планку призыва, потому что каждый второй призывник — с плоскостопием, каждый третий — с гастритом. В Финляндии под призыв попадает практически 90% молодых людей, у нас — меньше половины. Сомневаюсь, что финны здоровее белорусов.

**— Воспользовавшись "дырами" в системе белорусской ПВО, Москва получила формальный повод для создания первой российской авиабазы в Лиде. Повысит ли она боеспособность белорусской ПВО?**

— Это политическая игра, больше связанная с внутрироссийскими событиями. Не исключено, что Путин не досидит до 2018 года; мы имеем шансы наблюдать реинкарнацию операции "преемник" — примерно по такому же сценарию, как с Медведевым. Тот был назначен вице-премьером по национальным проектам, куда вбрасывались колоссальные средства, а все трубили о небывалых успехах. В результате Медведева выбрали президентом, а нацпроекты тихонько свернули.

В данном случае все ожидают повторения пьесы, только преемником станет уже Шойгу.

Путину с учетом весьма неоднозначной ситуации в экономике России с крайне неблагоприятным развитием исламского терроризма внутри России нужна история внешнеполитического успеха, чтобы показать своего преемника в качестве эффективного и влиятельного военачальника, политика международного уровня. Для России авиабаза в Лиде также знак: Москва "застолбила" территорию, подтверждая свой великодержавный статус.

Но практика взаимоотношений России с Арменией, например, показывает — наличие российских военных баз, военных объектов не препятствует развитию военных отношений с НАТО и вестернизации этой страны.

**— Разделяете ли вы опасения, что российская авиабаза — угроза независимости страны?**

— Российская авиабаза не может быть угрозой независимости Беларуси в силу ее малочисленности и достаточно узкой специализации.

И потом, зачем России белорусская независимость? Это очень дорогое удовольствие, у России просто нет денег на это.

Россия сейчас примерно в такой же ситуации, в какой оказались Франция и Великобритания в 1970—1980-е годы после краха колониальной империи. У них еще есть глобальные претензии, они еще способны что-то делать (отправить куда-то войска, где-то устроить заварушку, свергнуть неугодного правителя в Африке). Но восстановить империю уже не способны: нет запала, население превращается в общество потребителей...

**— Вы сказали, что в случае военных конфликтов надежд на Россию нет. Ненадежный союзник?**

— Несмотря на массу подписанных бумаг и деклараций, мы не являемся союзниками, потому что любые союзнические отношения подразумевают фактор доверия. А его нет, что неоднократно доказывали обе стороны. Последний пример — Россия пригласила наблюдателей НАТО на учения "Запад-2013" в одностороннем порядке, не посчитав нужным даже поинтересоваться мнением белорусской стороны.

Никакими союзниками мы не являемся, это ситуативная видимость объединения. Для Беларуси главную роль играет меркантильный фактор, а Россия все еще испытывает потребность в сохранении великодержавного статуса. Если ты великая держава, то у тебя должны быть союзники; если их нет — нужно покупать видимость союза. Отсюда — все донорские структуры типа ОДКБ, ШОС, СНГ. Происходит объединение не на ценностной базе — у нас нет общей ценностной базы с Россией, а на желании "подоить" Россию, а для России — потешить свое самолюбие.

**Семен КУТКОВЕЦ.**

ФУТБОЛ

## Падзяліліся

У мінулую нядзелю прайшлі матчы 22-га, заключнага, тура першага этапа чэмпіянату Беларусі па футболе ў вышэйшай лізе.

Зараз каманды падзяліліся. Першыя шэсць будуць змагацца за медалі, астатняя шасцёрка пазмагаецца за 7—12-я месцы.

У першую шасцёрку патрапілі: "Шахцёр" (Салігорск) — 49 ачкоў, БАТЭ (Барысаў) — 48, "Дынама" (Мінск), "Гомель" — 34, "Нёман" (Гродна) — 30, Тарпеда-БелАЗ (Жодзіна) — 28. Другая шасцёрка: "Белшына" (Бабруйск) — 28, "Мінск" — 25, "Дынама" (Брэст) — 24, "Днепр" — 23, "Нафтан" (Наваполацк) — 21, "Славія" (Мазыр) — 16.

***P.S.*** *Зараз стаў вядомы каляндар на астатнюю частку нацыянальнага першынства. Прапануем яго вашай увазе.*

**Тур 23. 14—15 верасня**
Шахцёр — Тарпеда-БелАЗ
БАТЭ — Нёман
Дынама (Мн) — Гомель
Белшына — Славія
Мінск — Нафтан
Дынама (Бр) — Днепр

**Тур 24. 21—22 верасня**
Тарпеда-БелАЗ — Гомель
Нёман — Дынама (Мн)
Шахцёр — БАТЭ
Славія — Днепр
Нафтан — Дынама (Бр)
Белшына — Мінск

**Тур 25. 28—29 верасня**
БАТЭ — Тарпеда-БелАЗ
Дынама (Мн) — Шахцёр
Гомель — Нёман
Мінск — Славія
Дынама (Бр) — Белшына
Днепр — Нафтан

**Тур 26. 5—6 кастрычніка**
Тарпеда-БелАЗ — Нёман
Шахцёр — Гомель
БАТЭ — Дынама (Мн)
Славія — Нафтан
Белшына — Днепр
Мінск — Дынама (Бр)

**Тур 27. 19—20 кастрычніка**
Дынама (Мн) — Тарпеда-БелАЗ
Гомель — БАТЭ
Нёман — Шахцёр
Дынама (Бр) — Славія
Днепр — Мінск
Нафтан — Белшына

**Тур 28. 26—27 кастрычніка**
Тарпеда-БелАЗ — Шахцёр
Нёман — БАТЭ
Гомель — Дынама (Мн)
Славія — Белшына
Нафтан — Мінск
Днепр — Дынама (Бр)

**Тур 29. 1—2 лістапада**
Гомель — Тарпеда-БелАЗ
Дынама (Мн) — Нёман
БАТЭ — Шахцёр
Днепр — Славія
Дынама (Бр) — Нафтан
Мінск — Белшына

**Тур 30. 10 лістапада**
Тарпеда-БелАЗ — БАТЭ
Шахцёр — Дынама (Мн)
Нёман — Гомель
Славія — Мінск
Белшына — Дынама (Бр)
Нафтан — Днепр

**Тур 31. 23 лістапада**
Нёман — Тарпеда-БелАЗ
Гомель — Шахцёр
Дынама (Мн) — БАТЭ
Нафтан — Славія
Днепр — Белшына
Дынама (Бр) — Мінск

**Тур 32. 1 снежня**
Тарпеда-БелАЗ — Дынама (Мн)
БАТЭ — Гомель
Шахцёр — Нёман
Славія — Дынама (Бр)
Мінск — Днепр
Белшына — Нафтан

Народная Воля http://www.nv-online.info 3 ВЕРАСНЯ 2013 г.

Сяргей НАВУМЧЫК

# Дзевяноста першы

## Дні, якія стварылі краіну


Першыя хвіліны сесіі 24 жніўня 1991 года. Валянцін Голубеў, Зянон Пазьняк і Вольга Галубовіч.

*(Працяг. Пачатак у №№ 61,63,65,67.)*

Раздзелы пра сесію, на якой 25 жніўня 1991 г. была абвешчана незалежнасць Беларусі, у варыянце для “Народнай Волі” крыху адрозніваюцца ад кніжнай версіі, бо ў апошні час удалося ўдакладніць некаторыя дэталі, якія, перакананы, будуць цікавыя чытачам газеты.

У верасні 2011-га падчас запісу праграмы “Два на два” на “Белсаце” Дзмітрый Гурневіч і Павел Мажэйка вярнулі нас з Зянонам Пазьняком у тыя жнівеньскія дні і запыталіся: ці ўсведамлялі, ці адчувалі мы, дэпутаты Апазіцыі, гістарычнасць падзей, у прыватнасці абвяшчэння незалежнасці?

Мне падаецца, што ў поўнай меры такое ўсведамленне прыйшло пазней, а тады найпершым было — паспець скарыстаць час. Увогуле ж, цяжка прыгадваць уласныя эмоцыі праз 20 гадоў, але галоўнае адчуванне, канешне ж, памятаецца.

Гэта — адчуванне шчасця.

Неяк я пачуў ад знаёмага: “Ці не надакучыла табе пісаць пра дзевяностыя гады? Той час ужо гісторыя. Ёсць жа і актуальныя тэмы”.

Сапраўды — чаму я вяртаюся да таго часу? Ці толькі ў тым прычына, што ў сучаснай афіцыйнай беларускай гістарыяграфіі і публіцыстыцы гэтая тэма — табу і маладым часам проста няма адкуль даведацца пра нядаўнюю гісторыю сваёй краіны? Ці толькі ў тым, што менавіта ў 1991-м адбылася найважнейшая падзея ў гісторыі беларускага народа — абвяшчэнне дзяржаўнай незалежнасці, падзея, да якой мы, дэпутаты БНФ, мелі непасрэднае дачыненне?

Адказаць на такое пытанне паспрабую, узяўшы ў прыклад класікаў — аўтараў так званай “ваеннай прозы”.

Пакаленне, якое прайшло вайну, — я маю на ўвазе тых, хто потым браўся за пяро, — абірала для сваіх твораў розныя тэмы, але ўрэшце вярталася да вайны, і самыя лепшыя творы Алеся Адамовіча, Васіля Быкава, Георгія Бакланава, Віктара Някрасава — на ваенную тэму. Тут, вядома, можна шмат разважаць пра тое, што экстрэмальныя сітуацыі, якія на вайне здараюцца ці не штодня, давалі багаты матэрыял для раскрыцця характараў і дачыненняў, не кажучы ўжо пра сюжэтныя павароты. Усё гэта так. Але, падаецца, былі і псіхалагічныя прычыны.

Напрыканцы жыцця яны казалі, што вайна — самае галоўнае, што было ў іхнім лёсе. Найперш, вядома, з прычыны перамогі над тым, у чым яны бачылі абсалютнае зло, — над фашызмам. У майскія дні 1945-га яны адчувалі сябе ўдзельнікамі сапраўды гістарычнага дасягнення, ад поспеху якога — і гэта не гіпербала — залежаў лёс чалавецтва. Дні тыя яны прыгадвалі як самыя шчаслівыя: знікла неймавернае напружанне, адчуванне штодзённай, штохвіліннай рызыкі, і з’явілася пачуццё свабоды — такой, якой яны ніколі не зведалі ў жыцці. Але — толькі пачуццё. Як выявілася, вельмі кароткае.

Праз дзесяцігоддзі Быкавым было сказана: “Атрымаўшы перамогу, мы не здабылі свабоды”. Зразумела, пісьменнік меў на ўвазе метафізічны кантэкст, свабоду распараджацца сваім лёсам так, як маглі ім распараджацца іхнія “калегі па перамозе” — брытанскія, амерыканскія, французскія салдаты ды афіцэры. Савецкія ж пераможцы заставаліся пад ціскам начальства, пад кантролем НКВД, пад уплывам ідэалогіі.

Цікавую спробу вырвацца з-пад такога ціску (спробу вельмі кароткую) прыгадвае ў сваіх мемуарах паэт Аляксандр Дракахруст. У маі 1945-га некалькі савецкіх афіцэраў, ап’янелыя ад паветра перамогі (а можа, і не толькі ад паветра), прыхапіўшы маладых лекарак, рванулі на аўтамашынах з Берліна ў Парыж. Іх там сустракалі як герояў, і можна толькі ўявіць, якія тосты гучалі ў іх гонар на Шанзэлізэ, ды “парыжскія канікулы” хутка абарваліся: нехта з савецкай місіі іх “застукаў” і куды трэба “настукаў”. Па вайсковых частках зачыталі загад маршала Георгія Жукава: афіцэраў — разжалаваць, лекарак — выгнаць. Але, прыгадвае Аляксандр Дракахруст, гэты загад ён слухаў з адчуваннем зайздрасці. Бо “самавольшчыкі” сапраўды глынулі свабоды — як кажуць, на поўныя грудзі.

Думаю, што зайздрасць — хоць на некалькі секундаў — не абмінула ў момант падпісання загаду і маршала Жукава. Які, нягледзячы на сваю неабмежаваную ўладу з правам распараджацца жыццямі сотняў тысяч, насамрэч быў гэткі ж несвабодны, як лейтэнанты і маёры. І ўжо значна лепей за афіцэраў, на прыкладзе колішніх сваіх знаёмцаў, уяўляў няпэўнасць лёсаў пры сталінскім кіраўніцтве: сёння ты — маршал на трыбуне Маўзалея, а заўтра лейтэнант НКВД у падвале Лубянкі выбівае табе зубы.

Аляксандр Дракахруст перакананы, што тыя “самавольшчыкі” прыгадвалі дні сваіх уцёкаў як самыя шчаслівыя дні жыцця.

Дык вось, нешта падобнае адчувалі і мы ў жніўні 1991 года. Канец жніўня — пачатак верасня, гэтыя некалькі дзён пасля правалу путчу ды абвяшчэнне незалежнасці Беларусі былі самымі шчаслівымі ў маім жыцці і, напэўна, у жыцці калег па дэпутацкай Апазіцыі БНФ. “Гістарычна шчаслівымі” — кажа Пётра Садоўскі. Пры тым што больш напружаных, проста псіхічна і фізічна зняможных дзён у мяне ніколі не было.

Але вось што адметна: многія з маіх калег па Апазіцыі БНФ не могуць прыгадаць храналогію падзей ва ўсіх дэталях. Верагодна, гэта вынік якраз той максімальнай напружанасці, бо выкаліся мы, як кажуць, да апошняга, і адразу пасля тых дзён уключыўся нейкі механізм псіхалагічнай самаабароны, бо далей трымаць усе гэтыя эмоцыі было цяжка. Цалкам пагаджуся з Лявонам Баршчэўскім, які сказаў, што больш зрабіць у тых умовах было немагчыма. Пагаджуся, але з удакладненнем, што зрабілі значна больш, чым уяўлялася рэальным.

### «Не скарыстаем шанец — потым сабе не даруем»

22 жніўня пад націскам дэпутатаў Апазіцыі БНФ (нас падтрымалі яшчэ некалькі дзясяткаў дэпутатаў) Прэзідыум Вярхоўнага Савета быў вымушаны прызначыць нечарговую сесію на 24 жніўня.

Парадак дня, які прапанаваў Прэзідыум, складаўся з двух пунктаў. Першы — “Аб бягучым моманце”. Другі — “Пра Саюзны дагавор”. І больш — нічога.

Колькі разоў члены Прэзідыума адкідвалі нашы, дэпутатаў Апазіцыі БНФ, законапраекты на той падставе, што яны нібыта не былі дакладна сфармуляваны альбо былі юрыдычна некарэктныя — і тут самі высоўваюць расплывістую фармулёўку пра “бягучы момант”... І, вядома, зноў — Саюзны дагавор. А пра незалежнасць — ні слова.

Зянон Пазьняк падаў Дзямянцею нашы прапановы з абсалютна канкрэтнымі фармулёўкамі ў парадак дня нечарговай сесіі:

“— Аб дзеяннях членаў Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР і службовых асоб рэспублікі ў час перавароту.

— Аб дзеяннях грамадска-палітычных арганізацый у час спробы дзяржаўнага перавароту.

— Аб наданні канстытуцыйнага статусу Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР.

— Аб зменах у артыкуле Канстытуцыі БССР.

— Аб Саюзным дагаворы.

— Аб асноўных пытаннях парадку дня пятай сесіі Вярхоўнага Савета БССР”.

Але трэба было падрыхтаваць тэксты законапраектаў — і на гэта мы мелі крыху больш за суткі.

Гэтыя суткі мы правялі ў нашым 363-м пакоі Дома ўрада. Размеркаваліся па групах: адны рыхтуюць пакет пад канстытуцыйнасць Дэкларацыі, другія — пастановы пра адстаўкі старшыні і Прэзідыума, трэція — рашэнні пра забарону дзейнасці КПБ-КПСС і нацыяналізацыю партыйнай маёмасці, чацвёртыя — аб перападпарадкаванні войска, КДБ, МУС і пракуратуры.

Пазней мне так і не ўдалося знайсці фотаздымкаў нашай працы тых дзён у памяшканні Апазіцыі — я перакананы, што, апрача здымачнай групы фільма “Дэпутаты”, які рабілі Аляксандр Лукашук і Юрый Гарулёў, там ніхто і не здымаў (ва ўсялякім разе, пры мне не здымалі дакладна). У фільме ёсць некалькі секундаў — і гэта ўсё, што засталося для гісторыі.

І тое вельмі лёгка патлумачыць. Нават дэмакратычна арыентаваныя журналісты ў тыя дні засяродзілі ўвагу не на Мінску, а на Маскве, дзе, як лічылася, адбываюцца галоўныя падзеі: ідуць арышты ўдзельнікаў ГКЧП, нехта з путчыстаў страляецца, нехта з чыноўнікаў выкідваецца з акна, Гарбачоў прыязджае да расійскіх дэпутатаў, Ельцын падпісвае ўказ аб забароне дзейнасці КПСС...

Дый нічога радыкальнага, рэвалюцыйнага ад пракамуністычнага Вярхоўнага Савета БССР журналісты не чакалі. Тады і прагучала па Радыё Свабода меркаванне, што максімум, на што можа пайсці дэпутацкая большасць, — гэта дэпартызацыя (вывад камуністычных камітэтаў з прадпрыемстваў, дзяржаўных устаноў і войска). І нават гэта здавалася маларэальным.

Увогуле, у той дзень, калі мы раніцай сабраліся ў нашым пакоі ў Доме ўрада, Пазьняк сказаў: у нас ёсць некалькі дзён, магчыма, нават менш за тыдзень. І калі мы за гэтыя дні не скарыстаем шанец — потым сабе не даруем. Бо можа здарыцца, што больш такой магчымасці і такіх умоў у нас не будзе.

Сапраўды, тыя дні былі адметныя: уздым і надзвычайная палітычная актыўнасць народа і — страх камуністычных кіраўнікоў. Але мы разумелі, што і радасць, і страх — гэта пачуцці, а ўсялякія эмоцыі — недаўгавечныя, хай бы нават яны і ахаплівалі вялікую частку людзей. Але пакуль такія эмоцыі існуюць — іх трэба скарыстаць. З’явіўся рэальны шанец, змарнаваць які было недаравальна.

Тры “путчаўскія” дні ўзялі багата нерваў і фізічных сіл, а распрацоўка дакументаў вымагала максімальнай засяроджанасці. Мы ўсведамлялі, вядома, якога кшталту дакументы рыхтуем — магчыма, самыя важныя для лёсу Беларусі. Таму юрыдычныя фармулёўкі мусілі быць дасканалымі, як ніколі.

На шчасце, у нас ужо была практыка стварэння заканадаўчых дакументаў — хай нашы прапановы часцей за ўсё не праходзілі, а адкідваліся пракамуністычным Вярхоўным Саветам, але досведу мы назапасілі дастаткова, каб у падрыхтоўцы да сесіі адчуваць сябе ўпэўнена.

Нічога не магу прыгадаць з той дзённай ды начной працы, акрамя вялікага напружання і шкадавання, што не можаш падзяліцца на два, тры, чатыры чалавекі: у памяшканні апазіцыі мы пісалі законапраекты, а побач няспынна званіў тэлефон — з Мінска, з розных гарадоў Беларусі людзі паведамлялі, хто з мясцовага начальства і якім чынам падтрымаў пераварот, пыталіся, што трэба рабіць...

БНФ тады не меў свайго памяшкання, і некалькі чалавек з Сойма сядзелі ў нашым пакоі “на тэлефонах”. Але часта людзі, якія званілі, прасілі падысці да тэлефона менавіта дэпутатаў — бо ў дзяржаўных установах на дэпутацкія запыты рэагавалі шпарчэй.

А з пошты нам прыносілі сотні тэлеграм з патрабаваннямі адстаўкі Дзямянцея і забароны КПБ-КПСС. Шмат дзе праводзіліся сходы, і цэлыя калектывы прымалі рэзалюцыі — адно такое рашэнне нам перадаў галоўны рэдактар выдавецтва “Беларусь” Аляксандр Лукашук, і яно выразна адлюстроўвае настроі тых дзён.

З акна нашага пакою ў Доме ўрада плошча бачыла бел-чырвона-белы сцяг — яго прымацаваў Аляксандар Шут.

Увечары 23 жніўня мы перадалі ў сакратарыят Вярхоўнага Савета два дзясяткі законапраектаў — пастановы пра наданне Дэкларацыі аб суверэнітэце канстытуцыйнай сілы, пра забарону дзейнасці КПБ-КПСС і нацыяналізацыі маёмасці, а таксама аб дэпартызацыі, аб падпарадкаванні МУС, КДБ і пракуратуры Вярхоўнаму Савету і Саўміну Беларусі — усяго 22 аркушы.


Мы выступалі не толькі ў Авальнай зале, але і перад людзьмі на плошчы.

І адразу пасля гэтага мы — Зянон Пазьняк, Уладзімір Заблоцкі, Валянцін Голубеў і я — паехалі ў тэлецэнтр на Макаёнка на прамы эфір.

Гэты эфір мы запатрабавалі яшчэ на пасяджэнні Прэзідыума, запатрабавалі катэгарычна і менавіта ў праймтайм. Гэта, здаецца, быў адзіны выпадак, калі кіраўнік Дзяржтэлерадыё Сталяроў даў нам яго адразу (і раней, і пазней перамовы з ім забіралі ў мяне не адзін дзень, хоць выхад на тэлебачанне нібыта і быў нам гарантаваны Законам аб статусе дэпутата).

У студыі працавалі прамыя тэлефоны, і на нас абрынулася інфармацыя з розных куткоў Беларусі пра падтрымку ГКЧП мясцовым начальствам. Мы патлумачылі, чаго будзем дамагацца ад дэпутацкай большасці на нечарговай сесіі: галоўнымі пытаннямі былі адстаўка Дзямянцея і Прэзідыума Вярхоўнага Савета, спыненне дзейнасці КПБ-КПСС і незалежнасць.

Мы заклікалі людзей прыйсці на плошчу перад Домам урада з самага пачатку сесіі, каб падтрымаць дэпутатаў БНФ. Мы ведалі, што парламенцкая “большасць” не ператварылася ў “меншасць”. У тыя дні аўтарытэт кіраўніцтва БССР быў на нулі, але мы ўжо мелі досвед стасункаў з камуністычнымі дэпутатамі, ведалі, што яны здольныя галасаваць насуперак здароваму сэнсу і нават інстынкту самазахавання. А тысячы людзей на плошчы прымусілі б камуністаў больш уважліва паставіцца да нашых патрабаванняў.

Не ведаю, ці рабіў хто-небудзь відэазапіс таго эфіру, — у архіве Уладзіміра Кармілкіна захавалася некалькі фотакадраў з тэлевізара.

Дэталяў нашых выступленняў не памятаю, узгадваецца толькі, што пад тэлевізійнымі сафітамі было вельмі горача дый эфір быў даволі працяглы, гадзіны паўтары. Здаецца, першы і апошні раз нам не абмяжоўвалі час.

### Перамагчы арыфметыку

Дні путчу ў Мінску былі халодныя, як для жніўня, а вось раніца 24-га прыгадваецца цёплай. Першае пасяджэнне кожнай сесіі Вярхоўнага Савета звычайна пачыналася а 10-й гадзіне, але гэтым разам было прызначана на 12-ю. На плошчы ўжо сабралася даволі шмат людзей — яны павесілі на міліцэйскія загароджы плакаты з патрабаваннямі адстаўкі Дзямянцея і забароны КПБ-КПСС.

Перад самым пачаткам сесіі мяне папрасілі выступіць перад людзьмі: на плошчу таксама выйшлі Алег Трусаў і Яўген Глушкевіч. Гучалі заклікі ісці да ЦК і вынесці адтуль камуністаў “уперад нагамі”. Увогуле, людзі мелі рашучы настрой. Мы заклікалі да цывілізаваных спосабаў — дзейнасць КПБ-КПСС мусіць быць прыпынена, але легітымным шляхам.

На пачатку сесіі Галіна Сямдзянава ўнесла ў Авальную залу бел-чырвона-белы сцяг, разам з Валянцінам Голубевым замацавала яго за трыбунай, а Зянон Пазьняк зрабіў прапанову, каб нацыянальны сцяг заставаўся ў зале. Дзямянцей паставіў на галасаванне (а мог бы і проста сказаць “Добра”). За — толькі 107 дэпутатаў. Пазьняк прамовіў: “Мы пачакаем”, і Валянцін Голубеў прыбраў сцяг са сцэны і паставіў яго ў “мінскім сектары” — усю сесію сцяг быў з намі ў зале.

(Потым невядома адкуль узнік міф, што нібыта першым сцяг у Авальную залу ўнёс Лукашэнка. Насамрэч на другі дзень, вяртаючыся пасля абеду ў гатэлі на сесію, дэпутат-касманаўт Уладзімір Кавалёнак падышоў да людзей на плошчы, узяў сцяг і прынёс яго ў залу — раптам з ім выпадкова ўвайшлі ў залу Аляксандр Лукашэнка з Інэсай Драбышэўскай (будучы міністр аховы здароўя).

Што да самога Лукашэнкі, дык у пачатку сесіі ён толькі адзін раз прагаласаваў супраць парадку дня, а потым заявіў, што не хоча ўдзельнічаць у працы сесіі, каб браць на сябе адказнасць, паставіў пад сумнеў неабходнасць суверэнітэту і не рэгістраваўся).

Вынік галасавання пра сцяг паказваў, што нашы засцярогі наконт неразумення сітуацыі значнай часткай дэпутатаў-камуністаў аказаліся слушнымі. Калі ўявіць, што прапанаваныя намі на парадак дня сесіі пытанні збяруць такую самую колькасць прыхільнікаў, дык для прыняцця рашэнняў пра адстаўку Дзямянцея і Прэзідыума ВС, дэпартызацыі і спынення дзейнасці КПБ-КПСС нам не хопіць амаль 70 галасоў. А для абвяшчэння незалежнасці — тут ужо патрабавалася канстытуцыйная большасць — не хапала амаль 130 галасоў.

Звычайна, каб перацягнуць на свой бок 15—20 дэпутатаў, нам даводзілася прыкладаць вялізныя намаганні — весці кулуарныя перамовы, шукаць дадатковую аргументацыю, што займала не дзень і не два. Але пераканаць пару дзясяткаў дэпутатаў змяніць пазіцыю было рэальна, калі ж не хапала 130 галасоў — не памятаю, каб мы настойвалі на хуткім перагаласаванні. У такой сітуацыі было зразумела, што пытанне давядзецца адкласці на доўгі час. Але цяпер гэта было немагчыма: сесію, як мы ведалі, кіраўніцтва Вярхоўнага Савета планавала правесці за адзін дзень.

Таму 130 дэпутатаў, галасоў якіх нам не хапала, — гэта ў тых умовах была вялізная, амаль недасягальная лічба — усе папярэднія сесіі паказвалі ўсёмагутнасць арыфметыкі. Стала зразумела, што лёгкага поспеху на хвалі перамогі над ГКЧП не атрымаецца. Цяпер усё залежала ад нашых дзеянняў у Авальнай зале. А таксама — ад людзей на плошчы.

Увогуле, гэтая сесія — прыклад удалага спалучэння стратэгіі і дакладна пралічанай тактыкі.

Стратэгія палягала ў тым, каб прымусіць парламенцкую большасць прыняць нашы прапановы, абвясціць незалежнасць і забараніць КПБ-КПСС.

Адзіная тактыка, якая падавалася перспектыўнай, — спалучэнне націску і пераконвання. У душах камуністаў панавалі страх і неакрэсленасць уласнай будучыні. Што да ціску, дык тут нам вельмі дапамагалі людзі на плошчы: голас народа праходзіў праз вокны ў фае Дома ўрада і праз дзверы — у Авальную залу. У самой зале пасяджэнняў мы пастаянна ціснулі на дэпутатаў — ва ўсялякім разе, мая роля вымалёўвалася пераважна менавіта такой. Я то зачытваў пратакол пасяджэння Прэзідыума, большасць членаў якога фактычна падтрымалі ГКЧП, то цытаваў гнеўныя тэлеграмы “з месцаў”, то маляваў перспектывы ў тым выпадку, калі б народ з плошчы прарваўся ў Авальную залу.

Тое самае рабіў і Яўген Глушкевіч — зразумела, што папярэджанні з вуснаў былога камуністычнага сакратара для дзейных партыйных сакратароў гучалі пераканаўча.

У Валянціна Голубева ці Зянона Пазьняка мэта была крыху іншая. Валянцін агучваў нашы прапановы ў парадак дня, праўда, і тут ён таксама выявіў свой бліскучы прамоўніцкі талент, надаў эмоцый — але ў меру. Пазьняк рабіў палітычны даклад, тут усё было выверана і ўзважана, але ацэнкі камуністам Пазьняк даваў знішчальныя. У канцы сесіі ён нечакана для парламенцкай большасці згуляе на кантрасце — звернецца да іх з просьбай, якая кардынальна памяняе сітуацыю.

Вось прыклады выкарыстання такой тактыкі ў нашых выступах, цытую па стэнаграме:

***Навумчык:*** “...Мы стаялі фактычна перад пагрозай тэрору. Вось цытаты з газеты “Віцьбічы”. Бурак, выканаўца абавязкаў начальніка ўпраўлення КДБ па Віцебскай вобласці, цытата: “как орган государственного управления мы стоим на страже конституционного строя. Комитет по чрезвычайному положению в СССР создан в соответствии с Конституцией СССР. Следовательно, будем руководствоваться его решениями”. Вось такі Бурак мог быць дэтанатарам. Я спадзяюся, што таварыш Шыркоўскі ўжо аддаў загад зняць яго з пасады. Але мы не павінны пакладацца на сумленных альбо несумленных людзей. Таму мы павінны сёння зрабіць тое, што робіцца ў Маскве. Першае. Апячатаць літаральна сёння, зараз, будынак Дзяржаўнай бяспекі БССР, каб пазбегнуць знішчэння архіваў. (*У тыя гадзіны паступіла інфармацыя, што ў Маскве Лубянка нібыта апячатана — але звесткі былі памылковыя. Апячаталі будынкі ЦК КПСС, а КГБ не кранулі. Што датычыць Бурака, дык яго не толькі не здымуць з пасады — праз некалькі гадоў ён будзе дэпутатам Вярхоўнага Савета 13-га склікання, куды не прапусцяць ніводнага з нас, франтаўцаў. —* **С.Н.**) Тут шмат казалася пра партыю. Літаральна цяпер неабходна зрабіць захады, каб пазбегнуць знішчэння дакументацыі, і апячатаць будынак ЦК кампартыі Беларусі. Я прапаную прыняць гэта рашэнне адразу, тут, у зале”.

І вось яшчэ адзін мой выступ (як і папярэдні, ад мікрафона):

“Паважаныя дэпутаты-камуністы! Тое, што прапанавала Апазіцыя, падтрымана дзясяткамі, сотнямі прадпрыемстваў у абласцях, у раёнах. Сёння, калі за 10 хвілін да пачатку гэтай сесіі мы з калегам Глушкевічам, калегам Трусавым выступалі перад тымі тысячамі людзей, якія стаяць на плошчы, мы іх прасілі — былі заклікі пайсці граміць ЦК і гэтак далей — мы іх прасілі захоўваць спакой. Мы ўсё вырашым законным, канстытуцыйным шляхам. Дык вам чаго хочацца? Калі вы гэтыя прапановы не прымеце — дэпартызацыю і нацыяналізацыю народ правядзе, але ён правядзе гэта не так, як мы прапануем, — культурна, цывілізавана, а ён правядзе, выцягваючы вас за валасы. Я гэтага вельмі не хачу. Апазіцыя гэтага вельмі не хоча. Давайце рабіць так, як зрабіў Ельцын. Давайце будзем рабіць цывілізавана. Мы вас вельмі просім”.

Адразу пасля гэтага майго выступу Яўген Глушкевіч падышоў да мікрафона і звярнуўся да тых, хто слухаў і глядзеў тэлерадыётрансляцыю:

“Я звяртаюся да мінчан, тых, хто нас цяпер слухае. Нам патрэбна ваша дапамога. Прыходзьце на плошчу, нам патрэбна ваша падтрымка”.

Рэмарка ў стэнаграме “Шум у зале” фіксуе абурэнне камуністаў адкрытым заклікам да людзей (як яны разумелі, “натоўпу”) прыйсці да Дома ўрада і, магчыма, умяшацца ў “заканатворчы працэс” (не выключана, што і шляхам выцягвання за валасы, пра што намякнуў папярэдні прамоўца).

Пазіцыю Прэзідыума (разгледзець два пытанні — пра бягучы момант і пра саюзную дамову — і скончыць сесію за адзін дзень) прадстаўляў ад імя Прэзідыума Станіслаў Шушкевіч.

Мы з такой прапановай былі катэгарычна не згодны, бо вырашаўся лёс Беларусі, і дэпутаты павінны былі правесці ў Авальнай зале столькі часу, колькі спатрэбіцца.

Належнай колькасці галасоў не набрала ні прапанова Прэзідыума, ні прапанова Апазіцыі.

Градус напружанасці павялічваўся.

Віктар Ганчар заклікаў Прэзідыум зняць сваю прапанову, аднак Шушкевіч заявіў: “Не магу зняць тое, што прапанавана Прэзідыумам”.

Да мікрафона падыходзіць Пазьняк: “Шаноўны Станіслаў Станіслававіч, галасаванне паказала ўсю бесперспектыўнасць вашай прапановы, таму што за прапанову Прэзідыума не хапіла галасоў і за прапанову Апазіцыі не хапіла галасоў. Так што выхад з гэтага тупіка ёсць толькі адзін. Гэта тое, што прапанаваў калега Ганчар. Трэба, каб Прэзідыум зняў сваю прапанову...”

Свой варыянт прапануе Ігар Гермянчук (канкрэтызаваць першы пункт прапановамі апазіцыі і дэпутатаў), нарэшце, Пётра Садоўскі як член Прэзідыума прапануе зрабіць перапынак і ўсім членам Прэзідыума сабрацца, каб перагледзець сваё стаўленне да парадку дня. Дзямянцей абвяшчае перапынак.

Пасля перапынку Шушкевіч ізноў агучвае прапанову Прэзідыума, гэтым разам у новай форме, там ужо ёсць пытанне аб дэпартызацыі, але ўзнікае новае: “Аб дзяржаўным забеспячэнні КПБ”. Гэта значыць — ні многа ні мала ўзяць кампартыю на дзяржаўнае забеспячэнне!

Дзямянцей хоча ставіць прапанову на галасаванне, але да мікрафона падыходзіць Валянцін Голубеў:

“Паважаны Станіслаў Станіслававіч! Тое размазванне, пра якое я гаварыў на пачатку, працягваецца. Пытанне аб дзеяннях старшыні Вярхоўнага Савета падчас путчу вы, Прэзідыум, знялі поўнасцю. Пытанне, якое ставіла Апазіцыя, аб дзеяннях членаў Прэзідыума Вярхоўнага Савета, усяго Прэзідыума вы знялі поўнасцю. Пытанне аб дзеяннях службовых асоб вы знялі поўнасцю... Пяройдзем далей да кампартыі Беларусі. Ці не лічыце вы, што зараз трэба забараніць ці прыпыніць дзейнасць гэтай злачыннай арганізацыі? Гэтага няма. Дзе пытанне аб нацыяналізацыі маёмасці кампартыі Беларусі?.. Паважаны дэпутат Шушкевіч! Дзе падзелася пытанне аб наданні статусу канстытуцыйнага закона Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце? Што, мы зноў уцяклі, ізноў баімся сказаць, што мы беларусы і Вярхоўны Савет Беларусі павінен ахоўваць сваю рэспубліку? Тут шэраг пытанняў. Знікла пытанне аб пракуроры. Зніклі іншыя пытанні, і мы, Апазіцыя, Дэмакратычны клуб і іншыя дэмакратычныя дэпутаты, настойваем, каб парадак дня прымаўся так, як ён быў пастаўлены Апазіцыяй, як ён быў пастаўлены народам”.

На плошчы з’явіўся плакат “Шушкевіч! Памяркоўнасць і маразм — не адно і тое ж!”.

Вядома, для нас найважнейшым пытаннем была незалежнасць, але тут мы не адчулі падтрымкі Станіслава Шушкевіча; наадварот, ён паслядоўна даказваў немэтазгоднасць уключэння пытання пра наданне Дэкларацыі аб суверэнітэце канстытуцыйнага статусу.

У нейкі момант Дзямянцей, як заўсёды, пачаў блытацца, і тады Шушкевіч папрасіў яго даць яму весці дыскусію, а фактычна — весці сесію. Шушкевіч упарта адстойваў пазіцыю Прэзідыума (разгледзець толькі два пытанні, у якіх нідзе не было месца незалежнасці). Паўтаралася сітуацыя, што ўзнікла на майскай сесіі, калі Шушкевіч рабіў усё, каб не ўключыць у парадак дня прапанаваныя Апазіцыяй БНФ і падтрыманыя страйкавым рухам пытанні пра дэпартызацыю і канстытуцыйны статус Дэкларацыі аб суверэнітэце. Толькі цяпер такая пазіцыя Шушкевіча магла значна даражэй каштаваць грамадству, паколькі мог быць змарнаваны ўнікальны шанец.

Не перабольшу, калі скажу, што ад пачатку сесіі нам, дэпутатам Апазіцыі БНФ, давялося змагацца на два фронты: з камуністамі і з Шушкевічам. Пазіцыя Шушкевіча адносна незалежнасці даўно не была для нас сакрэтам — ён жа яшчэ ў маі ў інтэрв’ю “Навінам БНФ” заявіў, што незалежнасць — гэта “жарт”. Аднак цяпер, калі патрабаванні канстытуцыйнага статусу для Дэкларацыі сталі тэмай сходаў на заводах і ўстановах, калі сотні тэлеграм на адрас сесіі пачыналіся са слоў пра незалежнасць, такое стаўленне выглядала проста, далікатна кажучы, дзіўным.

***Станіслаў Шушкевіч:*** “Паважаны Валянцін Фёдаравіч! Вы мне прабачце, я рэдка ўжываю слова “нонсэнс”, а часцей ужываю беларускае слова “бязглуздзіца”. Дык вы, прабачце, на грані бязглуздзіцы. Наданне канстытуцыйнага статусу Дэкларацыі БССР — гэта пярэчыць самой Дэкларацыі”.

Пазьняк кажа, што, калі Вярхоўны Савет няздольны прыняць патрэбныя рашэнні, яго трэба распускаць, Шушкевіч у адказ прапануе Пазьняку самому скласці дэпутацкія паўнамоцтвы.

Нарэшце галасуем. За варыянт Прэзідыума — 210 дэпутатаў.

Дзямянцей ставіць на галасаванне “пытанне, якое ўносіў дэпутат Пазьняк, — “Аб наданні канстытуцыйнага статусу Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі”.

Вынікі: “за” — 161, а трэба — 174.

Пытанне не праходзіць.

Пасля гэтага ў эфіры Радыё Свабода карэспандэнтка Каміла Малевіч сказала, што, па самых аптымістычных разліках аналітыкаў, максімум, што магла б прыняць сесія, — рашэнне аб дэпартызацыі дзяржаўных органаў.

Мы лічылі інакш.

*(Працяг будзе.)*

ПАМЯТЬ

# И это все о нем...

*7 сентября исполнится два года, как в авиакатастрофе погибла хоккейная команда "Локомотив" из Ярославля, которая вылетала на первый матч КХЛ в Минск. Среди погибших были и белорусские хоккеисты — Сергей Остапчук и Руслан Салей. Сегодня мы предлагаем вашему вниманию некоторые фрагменты из книги спортивного журналиста Сергея Олехновича о Руслане Салее "Просто лучший. Simply the Best". В них — воспоминания Руслана о первых днях в Америке и рассказ мамы хоккеиста Тамары Гавриловны о сыне...*

## Руслан Салей о первых днях в Америке:

— Первые месяцы жизни в США мне давались очень тяжело. Помню, когда играл в Гродно, в 250 километрах от Минска, мне и то было очень тоскливо, а тут — за тридевять земель, на другом конце света. Потому в первое время звонил домой не просто часто, а очень часто. Потом — реже, но все равно минимум два раза в неделю общался с мамой, отцом, брателой или сестрой. Звонил сам, поскольку это было намного дешевле — минута разговора с Беларусью из Америки стоила 20 центов.

Не считая языка, сложнее всего было привыкнуть за океаном к одиночеству. Точнее — не к одиночеству как таковому, а к другой стране, иной культуре, менталитету. Ведь ты, особенно первое время, там одинок. На адаптацию требовалось время. И это вполне естественный процесс. Но, в принципе, я считаю, что для иностранцев, эмигрантов США — идеальная страна, лучше ее просто нет. В Штатах созданы все условия, чтобы законопослушный гражданин, пускай и из другого государства, чувствовал себя свободно, спокойно и комфортно. Даже не зная языка, ты можешь выкрутиться из положения...

Проблема была в том, что, живя на чужбине, ты скучаешь по родным, близким, друзьям — тем людям, с которыми ты много и часто общался на родине. Я встречался четыре года с девушкой, звали ее Ирина Толкачева, и хотя перед моим отъездом в "Тандер" мы расстались, точнее — ничего друг другу не обещали, первые 3—4 месяца за океаном все равно накатывало: постоянно снился дом, родители, друзья, девушка...

В то время было тяжело. Во-первых, уезжал в неизвестность — было не ясно, попаду или не попаду в "Лас-Вегас". Но, с другой стороны, выбора особого не было — надо было лететь. Когда я летом 1995-го уезжал, то всем говорил, что к Новому году вернусь. Зачем? Думаю, прежде всего для того, чтобы морально настроить самого себя: а, ерунда, еду в Америку всего на несколько месяцев. Иными словами, сама возможность вернуться придавала моральных сил. Я ведь не сжигал мосты, убегая из страны, как это делали в конце 1980-х — начале 1990-х некоторые российские (тогда еще — советские) хоккеисты. Вот если бы мне нельзя было вернуться, скажем, лет 5—6, это было бы намного сложнее...

## Тамара Гавриловна Салей о сыне:

— Со дня трагедии прошло довольно много времени, но не могу и не хочу говорить и думать о сыне в прошедшем времени: Руслаша для меня по-прежнему живой, он просто находится где-то далеко, но непременно приедет погостить, как делал это, начиная с 1995 года, каждое лето. Видимо, это какая-то самозащита: я как не смогла 7 сентября принять весть о смерти Руслана, так до сих пор не воспринимаю случившуюся в аэропорту Туношна трагедию. И если вдруг откуда-то издалека начинает возникать мысль, что Руслаша погиб, появляется резкое, вплоть до истерики, отторжение: нет!.. Нет!.. И еще раз — нет!!! Нет и не может этого быть!.. Я все так же жду его звонка с привычным вопросом: *"Привет, ма! Как дела?"* И как же давно не слышу его голоса...

Я не могу понять, как это могло случиться. Тысячи вопросов: как, зачем, почему и за что забрали у меня моего любимого сынулю, моего "киндера", "поскребыша", как я его очень часто называла? Ответа на них нет и никогда не будет...

7 сентября 2011 года все перевернулось за считанные минуты, потускнело до неузнаваемости, пропало желание жить. Как жить без моего любимого Русланчика, за которого мы все всегда болели и переживали, радовались и огорчались? Который всегда был с нами. О сыне могу говорить только в превосходной степени, хотя, конечно же, у него, как у каждого человека, были недостатки. Но нынче они кажутся настолько незначительными, что вспоминать о них не хочется. И я не стану этого делать.

Руслаша был третьим ребенком в нашей семье. Вадим старше его на двенадцать лет, Анжела — на десять. Руслан рос в окружении взрослых и сам быстро взрослел. Оттого уже в детстве был спокойным, не по годам рассудительным, очень аккуратным, хотя немного замкнутым. Он сам выбрал свой жизненный путь — никто не водил его за руку, не направлял...

Хоккей — это игра мужественных, смелых, выносливых и несгибаемых мужчин. И мой сын был именно таким. Эрнест Хемингуэй как-то сказал: *"Спорт учит честно выигрывать, спорт учит с достоинством проигрывать. Итак, спорт учит всему — учит жить"*. Это все — о Руслане. Хоккей научил его достойно жить. Научил, как преодолевать трудности, как добиваться поставленной цели, как бороться и побеждать. Повторюсь, все, чего сын достиг в своей короткой жизни, он добился сам — через тяжелый труд, пот и кровь. Профессиональная карьера была смыслом его жизни номер один, но только до той поры, пока не появилась семья. И тогда семья заняла главенствующее место в жизни Руслаши, особенно после рождения детей.

Алексис, Александро и Эйва были для него всем. Он делал все, чтобы дети материально ни в чем не нуждались, ну а любви, ласки, заботы и доброты папа и мама дарили им столько, что многим и не снилось. Руслан был прекрасным отцом, очень хотелось бы, чтобы дети всегда помнили своего папу. Уверена, так оно и будет — об этом позаботится Бэтанн. Благодаря поддержке родных, близких и знакомых эта маленькая хрупкая женщина выстояла перед обрушившимся на ее плечи горем, не упала, не сломалась. Но никому, кроме Бэтанн, не известно, каких сил ей стоило пережить гибель любимого мужа, как ей трудно... Тяжело не просто переживать горе, а переживать его все время, постоянно. Дай Бог ей силы, терпения, выдержки, женской мудрости все это вынести и вырастить деток, достойных их папы...

Поднимаясь вверх по своей дорожке, Руслану надо было думать не только о собственной безопасности, но и страховать жизнь бесценных сердцу людей — жены и деток. И страховка была нужна сверхнадежная. Внезапная смерть основного защитника семьи разорвала эту страховочную связь, ударила наотмашь по супруге, дочерям, сыну... Как же тяжело было Бэтанн выдержать этот неимоверной силы моральный удар, не упасть и не потянуть за собой осиротевших в одно мгновение ни в чем не повинных детей... За что такая кара? Чем дети провинились? Ни на один вопрос ответа тоже нет...

Боль снова поднимается откуда-то из глубины души, сердце разрывается, слезы застилают глаза... Господи, ну почему ты забрал от нас любимого сына, любимого мужа, любимого отца, любимого брата?! И сделал это на самом взлете, ведь Руслану не исполнилось и 37 лет... Почему ты оставил родителей без сына, а детей без отца? Почему?! Он ведь так любил Алексис, Александро и Эйву! И младшая его доченька, Эйвочка, которой 16 марта 2012 года исполнился всего годик, не будет помнить папу... За что такое испытание, такое наказание нам?!

Руслан был исключительным сыном — добрым, заботливым, внимательным. Разве можно забыть его первые письма из Лас-Вегаса? Они были полны любви, доброты и заботы о родных, оставшихся в Беларуси. Он скучал по дому, переживал за нас. Все его письма из США я храню и иногда перечитываю. Не могу поверить, что больше никогда по случаю приезда "нашего американца" мы не соберемся всей нашей большой семьей за обеденным столом... Неужели я больше не приготовлю Руслаше его любимые вареники и кутабы? Не могу поверить, что он не переступит порог своего дома — калифорнийского и минского. Он всегда говорил: *"У меня два дома — Беларусь и Калифорния"*.

Руслан очень любил жизнь! Он так любил нас всех! Нет, поверить в его смерть невозможно. Его гибель — это ночной кошмар, который стал явью... И гроб с телом моего любимого сыночка вспоминаю как страшный сон. На непохожее и незнакомое лицо Руслана смотреть не могла — смотрела только на портрет. Но трогала его руки, а они, всегда до этого такие теплые, добрые и ласковые, были холодными... Господи, за что?! Похороны помню очень смутно: нескончаемый поток людей с цветами и траурными венками, кладбище... Больше всего потряс венок от болельщиков — небольшой, скромный, с двумя свечами в центре и надписью: *"Великому Руслану от болельщиков"*. Неподдельная искренность присутствовала в каждом слове на черной ленте...

Есть такое высказывание: *"Счастливые обстоятельства создают друзей, печальные — испытывают их"*. Почему такое испытание выпало на долю родных, близких, друзей, товарищей и тысяч болельщиков этих, не побоюсь высокопарного слова, легендарных мальчиков, погибших на взлете в ярославском аэропорту? Почему, чтобы стать легендарными, надо было погибнуть? Как же жестока судьба! Как хоть чуть-чуть унять боль, слезы, печаль, раздирающую душу в клочья, в ошметки?..

Слезы, слезы, слезы... Внучка Виктория как-то сказала: *"Бабушка, не плачь, это твой крест, и тебе его надо нести". — "Викочка, он — неподъемный". — "Не можешь поднять, тащи"*. Тащу, но как же тяжел этот крест потери...

...Теперь я понимаю смысл выражения: *"жизнь разделилась на "до" и "после"*. У меня она разделилась на до 7 сентября 2011 года и после... Если "до" была жизнь, полная желаний, светлая и радостная, то "после" она словно остановилась, затянулась темными тучами печали, горя, слез, огромной душевной боли. Я почти не верю, что лучи света когда-нибудь пробьются сквозь эту темноту. И все-таки надежда на это есть, а лучиками света, верю, станут Алексис, Александро и Эйвочка — продолжение Руслана на Земле.

Детям так не хватает отца...

# «Руслан внутри меня...»

*(Из интервью вдовы Руслана Салея Бетанн goals.by в сентябре 2012 г.)*

**— Как на гибель "Локомотива" отреагировали клубы НХЛ?**

— Все команды объединились в трудную для меня минуту. Все позвонили, выразили соболезнования. "Анахайм" организовал церемонию прощания с Русланом вместо похорон. Все состоялось на домашней арене клуба "Honda Center". Церемония была такой, какой ее хотел бы видеть Руслан. Вообще, он бы хотел, чтобы все друзья собрались вместе, покурили сигары, выпили виски, пошутили, вспомнили его добрым словом. Без чего-то драматичного и трагичного. В итоге прошла достаточно теплая церемония. Пришли все друзья, которые знали Руслана, все говорили о нем много хорошего. Также "Колорадо" провел церемонию открытия сезона в память о Руслане. "Детройт" повесил майку с его номером на своей домашней арене. Плюс профсоюз игроков НХЛ мне много помогает.

По большому счету церемония, которая прошла в Америке, это память о живом Руслане. На нее можно было взять детей. В Беларуси все прошло по-другому, более трагично.

**— Правильно ли я понимаю, что отношение к смерти в США и Беларуси совершенно разное?**

— Как правило, все индивидуально и зависит от самого человека, его взглядов и убеждений. Разница лишь в том, что в Америке чаще предпочтение отдается кремации, нежели обычному захоронению...

**— Есть ли в Беларуси что-то такое, что вы до сих пор не понимаете?**

— Просто есть разница в менталитете. В Америке мы стараемся все упростить. Здесь же все наоборот.

**— Я и веду к тому, что, возможно, и трагедию в Америке было легче пережить?**

— Если судить по мне, то замечу, что приходится больше притворяться, будто ничего не произошло, что жизнь продолжается. Вот этим мы и отличаемся. Американцы не показывают свою трагичность. Мы пытаемся это скрыть за маской улыбки. Постепенно как-то привыкаю, что Руслана больше нет рядом. Но все равно он постоянно у меня в мыслях, в моей голове. Я очень много плачу, думая о нем, но делаю это не на людях. Руслан внутри меня, и вы этого даже не видите.

Больше всего мне помогает справляться с горем вера в Бога... Я и до смерти Руслана верила в Бога и ходила в церковь, но не так часто. После трагедии стала больше обращаться к Богу, чтобы понять, почему в жизни так все происходит. Плюс это помогает лучше осознать и смысл жизни. Я читаю Библию, заветы. И теперь понимаю, что Бог дает нам испытания. Жизнь на земле не должна быть простой, она должна быть сложной. Но в конце мы приходим к лучшей жизни.

**— Наверное, вера еще помогает надеяться, что Руслан следит за всем, что вы делаете сейчас...**

— Да, конечно.

**— Как пережили родители Руслана утрату?**

— Если говорить о бабушке, маме Руслана Тамаре Гавриловне, надо отметить, что она вообще очень сильно всегда переживала какие-то стрессовые ситуации, связанные с ее детьми. Для нее любая проблема была большой трагедией. Смерть Руслана стала, скажем так, самым трудным испытанием. Отец был таким же, как Руслан. Всегда видела в нем мужа, только старше. Ему, конечно, было очень тяжело. Он тоже сильно переживал любые потрясения сына. *(Альберт Викторович Салей умер через десять месяцев после гибели Руслана. —* **НВ.**)

**— Чем станет для вас Минск?**

— Планирую сюда приезжать каждое лето. В первую очередь для того, чтобы мои дети не забывали о своих корнях, о своей белорусской стороне, потому что хочется, чтобы они продолжали общаться с бабушкой, своими дядей и тетей, двоюродными сестрами. Беларусь для меня и для моих детей — это второй дом.

**— Бывает, что дети кричат: "Хочу к бабушке!"?**

— Они всех родных в Беларуси хотят видеть, не кого-то в отдельности. Старшей дочке Алексис Беларусь очень нравится, для нее Минск и Калифорния — это два равнозначных дома. Для сына же Сандро Калифорния— единственный дом. Там у него есть свое личное пространство. Он любит свои видеоигры. Вообще, его привязанность к американскому дому ощущается. Для него переезд — очень серьезное испытание.

**— Дети понимают, что папы больше нет, или для них он все еще куда-то уехал, но скоро должен вернуться?**

— Я детям все объяснила. В нашем доме много специальной детской литературы о том, как справляться с подобным горем — потерей близкого человека. Есть и религиозные книги. Читаю их перед сном детям и объясняю, что папа не с ними здесь, а где-то в другом месте.

**— Чем в свое время Руслан вас покорил?**

— Прежде всего своей честностью. Он очень открытый и конкретный человек. Когда Руслан мне сделал предложение, я поняла, что это не какое-то мимолетное желание, а обдуманный поступок. Руслан в жизни все планировал, старался все обдумать. Одновременно он был очень любящим, заботливым и ласковым мужчиной. Также я восхищаюсь родителями Руслана, как они смогли его воспитать. Мне кажется, его родители своим примером научили любить своих детей.

**— Как белорус и американка стали такой гармоничной парой?**

— Я Руслану всегда говорила, что мне очень повезло, потому что он умный, красивый и успешный. При этом я любила его всего, со всеми недостатками. Наверное, эта любовь нам и помогала быть хорошей семьей.

**— О чем вы сейчас мечтаете?**

— В первую очередь мне хочется опять быть счастливой. Не казаться, а по-настоящему испытывать это чувство. Конечно же, замуж второй раз я уже никогда не выйду. Я на всю жизнь останусь под фамилией Салей...





**Адрас рэдакцыі: 220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а. Прыёмная: тэл. (017) 3286871. Тэл./факс рэкламнага аддзела: (017) 3286904, 3286906**
**nvonlineinfo@gmail.com**
**http://www.nv-online.info**

ISSN 2071-9647
9 772071 964000 13069

**Падпісныя індэксы: 63222, 632222**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ**

**У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 2.09.2013 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 26550 экз. Заказ №.3848.**